КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 1 (322) ◂ 11 студзеня ◂ 2013 г.
www.novychas.org

# Новы Час



ЭДУАРДУ АКУЛІНУ — 50

Стар. 6

**ПАТРЭБНЫ БЕЛАРУСКІ ВАРЫЯНТ НАВАМОЎЯ**

Улада гатовая ахвяраваць формай, каб захаваць аўтарытарны змест. Толькі да гэтага яна і спрабуе звесці палітычную мадэрнізацыю

Стар. 4

**КІМ ЧЭН ЫН ВУЧЫЦЦА РАБІЦЬ ЦУДЫ**

Адным з вынікаў першага года знаходжання пры ўладзе новага паўночнакарэйскага лідара Кім Чэн Ына стала фармаванне ягонага культу асобы. Пра гэта журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з сябрам таварыства «КНДР—Украіна» Сяргеем Палішчуком

Стар. 11

**ПАД ЗНАКАМ «ВІЦІСА»**

Стар. 15

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ДАНОС ЯК ФОРМА ПАЛІТЫЧНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ**

Артыкул Сяргея Нікалюка з цыклу «Азбука паліталогіі»

▸ З НАГОДЫ

# ЧАС РАСПЛАТЫ НАСТАЕ

Вольга ХВОІН

**З 2013 года Беларусь пачне разлічвацца па знешніх крэдытах — гэтай перспектывай эканамісты палохалі ўвесь папярэдні год. Цяпер для вастрыні праблемы нават лічбы прыводзяцца спецыфічныя — колькі зялёных банкнот Беларусь будзе аддаваць штосекунду сваім крэдыторам.**




Як паведамляе інфармацыйнае агенцтва БелаПАН са спасылкай на Міжнародны валютны фонд (МВФ), у 2013 годзе Беларусь павінна выплаціць па крэдыце МВФ 1,61 мільярда долараў ЗША. Як вынікае з графіка плацяжоў, найбольшыя выплаты ў 2013 годзе прыпадаюць на красавік, чэрвень і кастрычнік: у гэтыя месяцы Беларусь павінна будзе выплаціць па 270 мільёнаў долараў.

У 2014 годзе Беларусь, згодна з графікам, павінна выплаціць МВФ 1,37 мільярда долараў, у 2015 годзе — 85 мільёнаў долараў. Апошні плацеж па крэдыце stand by павінен быць праведзены 1 мая 2015 года. Пяць траншаў крэдыту ў рамках праграмы stand by на агульную суму 3,46 мільярда долараў Беларусь атрымала ад МВФ у 2009–2010 гадах.

У 2011 годзе Беларусь выплаціла працэнтныя плацяжы па крэдыце ў памеры 83,5 мільёна долараў, у 2012-м — пяць плацяжоў на агульную суму 465,2 мільёна долараў.

Афіцыйны Мінск неаднаразова беспаспяхова звяртаўся ў МВФ з просьбай прадставіць чарговы крэдыт, аднак у фондзе спасылаюцца на негатоўнасць беларускага ўрада да глыбокіх структурным рэформаў, што неабходна для аднаўлення крэдытнага супрацоўніцтва.

У снежні мінулага года кіраўнік Нацбанка Надзея Ермакова, ацэньваючы магчымасці рэалізацыі новай праграмы з МВФ, заявіла: «Як вядома, урад і Нацыянальны банк распачалі паслядоўныя меры, накіраваныя на стабілізацыю эканомікі і сітуацыі на валютным і спажывецкім рынках краіны. Кіраўніцтва і эксперты фонду падтрымалі такія дзеянні, а таксама далі станоўчую ацэнку далейшым планам, накіраваным, у першую чаргу, на забеспячэнне макраэканамічнай стабілізацыі эканомікі, далейшае зніжэнне інфляцыі, павышэнне канкурэнтаздольнасці беларускай прадукцыі і паляпшэнне знешнегандлёвага сальда. ...Кіраўніцтва МВФ не адмаўляе магчымасць рэалізацыі новай праграмы. Аднак нам трэба будзе яшчэ зрабіць значную працу па выпрацоўцы і ўзгадненні ўмоў заключэння крэдытнай праграмы з фондам з улікам інтарэсаў Рэспублікі Беларусь, атрымання шырокай падтрымкі членаў савета дырэктараў. Мы плануем абмеркаваць з прадстаўнікамі фонду нашы далейшыя крокі ў гэтым кірунку вясной 2013 года. Заключэнне новай праграмы з фондам варта разглядаць не толькі як сумеснае ўзгадненне пэўных дзеянняў і атрымання пазык, а ў першую чаргу як пазітыўны сігнал, які можа дазволіць істотна павысіць інвестыцыйную прывабнасць нашай дзяржавы».

Агулам у 2013 годзе ў Беларусі на знешнія выплаты па крэдытах мусіць знайсці 3,1 мільярда долараў ЗША. Раней міністр фінансаў Андрэй Харкавец заяўляў, што ўрад будзе шукаць магчымасці рэфінансаваць пазыковы пакет, у прыватнасці, праз траншы крэдыту з Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС, размяшчэнне дзяржаўных аблігацый.

Паводле Харкаўца, у 2013 годзе па паказчыках эканамічнай бяспекі Беларусь будзе знаходзіцца «у стабільнай сітуацыі». Знешні дзяржаўны доўг складзе 21,1% ВУП (мы маем парог не больш за 25%), унутраны дзяржаўны доўг складзе 3% пры парозе не больш за 20%, плацяжы па абслугоўванні дзяржаўнага доўгу — 7,8% ад даходаў рэспубліканскага бюджэту (парогавае значэнне — не больш за 10%).

Эканаміст Глеб Шымановіч займаўся даследаваннем знешняга доўгу Беларусі. Эксперт звяртае ўвагу, што нарошчванне даўгавой масы пачалося пасля 2007 года. І асноўнай прычынай росту валавога знешняга доўгу Беларусі з'яўляецца актыўнае адміністрацыйнае рэгуляванне эканомікі, у тым ліку дырэктыўнае крэдытаванне. Мэтай гэтых крэдытаў было падтрыманне высокіх тэмпаў росту эканомікі, але няўстойлівасць такога росту вядзе да назапашвання структурных дысбалансаў.

«Беларусь наўрад ці можа разглядацца як надзейны пазычальнік. У такіх умовах магчымасці новых запазычанняў абмежаваныя толькі двухбаковымі пагадненнямі з урадамі іншых краін або міжнароднымі арганізацыямі і звязанымі банкаўскімі крэдытамі. Абмежаванасць рэсурсаў і звязаная з гэтым ўразлівасць у перагаворным працэсе яшчэ раз падкрэслівае, што Беларусі неабходна перагледзець эканамічную палітыку, каб мінімізаваць запатрабаванні ў знешнім крэдытаванні. Асноўнай задачай павінна стаць захаванне макраэканамічнай стабільнасці, а не высокіх тэмпаў росту. Маецца на ўвазе жорсткая фіскальная і манетарная палітыка, што спрыяла б стабілізацыі цэн і абменнага курсу, а таксама збалансаванасці бягучага рахунку плацежнага балансу», — адзначае Шымановіч.

Цікава, што ў пачатку студзеня Белстат распаўсюдзіў інфармацыю аб пераглядзе ацэнкі росту ВУП (у бок павелічэння, натуральна). Так, Беластат прагназуе, што росту ВУП Беларусі ў трэцім квартале 2012 года складзе 3,1% (раней называлася лічба ў 1,9%), у другім квартале — 3% (было 2,9%), у першым — 3,4% (было 3,1%).

Агулам жа рабіць прагнозы на бягучы год даволі складана: няма доўгатэрміновай пэўнасці з пастаўкамі вуглевадароднай сыравіны з Расіі (што даўно ратуе Беларусь у цяжкія моманты), невядома, як складзецца сітуацыя са знешнегандлёвым балансам. Канешне, на крайні выпадак заўсёды можна залезці ў золатавалютныя рэзервы рэспублікі. Цяпер жа па нервовых рэйдах на прадпрыемствы высокіх чыноўнікаў можна зразумець, што сітуацыя насамрэч не «ўпэўнена стабільная» і што якраз радыкальных метадаў ратавання ім хочацца пазбегнуць.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ШУКАЛІ ТЭРАРЫСТАЎ, ЗНАЙШЛІ НАЗІРАЛЬНІКАЎ

**Цэнтральны раённы аддзел Следчага камітэту Мінска даў адказ на скаргу аб незаконным затрыманні ўдзельнікаў праекта «Назіранне за выбарамі: тэорыя і практыка».**

З адказу вынікае, што затрыманне незалежных назіральнікаў за парламенцкімі выбарамі на наступны дзень пасля іх завяршэння было звязанае з «інфармацыяй аб тым, што група злачынцаў — выхадцаў з Рэспублікі Казахстан, можа хавацца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і рыхтаваць правядзенне тэрактаў», паведамляе сайт праекта.

На наступны дзень пасля парламенцкіх выбараў 23 верасня 2012 года 15 незалежных назіральнікаў былі затрыманыя ў хостэле «Джаз», як мяркуюць удзельнікі праекту, незаконна. З хостэлу разам з усімі ягонымі пастаяльцамі і персаналам на аўтазаку назіральнікі былі дастаўленыя ў Цэнтральны РАУС, дзе была праведзеная іх прымусовая дактыласкапія, а таксама дагляд асабістых рэчаў. У некаторых затрыманых часова былі адабраныя тэлефоны і ноўтбукі. Праз тры гадзіны пасля затрымання без тлумачэння прычынаў назіральнікаў і персанал хостэлу адпусцілі.

«24 верасня 2012 г. я была затрыманая ў Мінску ў памяшканні хостэлу «Джаз» […] невядомымі людзьмі, магчыма, супрацоўнікамі органаў унутраных спраў і АМАПу. Акрамя мяне таксама былі затрыманыя каля 25 чалавек — як знаёмых мне людзей, гэтак тых, каго я не ведаю», — гаворыцца ў скарзе кіраўніцы праекту «Назіранне за выбарамі: тэорыя і практыка» (ЕОТР) Анастасіі Матчанкі. У скарзе Матчанка прасіла ідэнтыфікаваць імёны тых, хто праводзіў затрыманне, а таксама правесці праверку па факту, як яна мяркуе, незаконнага затрымання. З падобнай скаргай у следчыя органы звярнулася выкладчыца Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэту Таццяна Чуліцкая, таксама затрыманая 24 верасня.

Следчы камітэт адмовіўся распачынаць крымінальную справу, матывавашы гэта адсутнасцю складу злачынства. Між тым, затрыманыя звяртаюць увагу на тое, што следчы так і не здолеў патлумачыць, чаму іх каля двух гадзін пратрымалі ля сцяны ў калідоры РАУС, а таксама навошта было забіраць на дагляд ноўтбукі і сродкі сувязі ў некаторых затрыманых.

### ЕЎРАДЭПУТАТ ПАДТРЫМАЎ ГРОДЗЕНСКІХ ПРАВААБАРОНЦАЎ

**Суд аштрафаваў на 1,5 мільёна рублёў кожнага з трох гродзенскіх праваабаронцаў, якія сфатаграфаваліся з выявамі кіраўніка Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага.**

Еўрадэпутат Марэк Мігальскі ўжо вынес гэтае пытанне на разгляд Еўрапейскай камісіі і заклікаў умяшацца і выступіць супраць рэпрэсій актывістаў у Беларусі. Мігальскі нагадаў, што актывісты Віктар Сазонаў, Раман Юргель і Уладзімір Хільмановіч 10 снежня мінулага года, з нагоды Міжнароднага дня правоў чалавека, сфатаграфаваліся з Дэкларацыяй правоў чалавека і плакатамі з выяваю Алеся Бяляцкага.

Гродзенская міліцыя класіфікавала гэтыя дзеянні як «незаконныя пікеты». Як падкрэсліў Мігальскі, «хваля рэпрэсій супраць беларускіх грамадскіх актывістаў і прадстаўнікоў апазіцыі расце. Грамадзяне па-ранейшаму пазбаўленыя права выказваць свае погляды і ўдзельнічаць у мірных акцыях пратэсту».

### НАМІНАНТЫ НА ЗВАННЕ «ЧАЛАВЕК ГОДА ВІЦЕБСКА–2012»

**Любоў Кавалёва, Сяргей Каваленка і Ігар Пасноў — вядомыя асобы, якія цягам 2012 года дамагаліся рэалізацыі сваіх грамадзянскіх правоў і працягваюць гэта рабіць, трапілі ў шэраг намінантаў на званне «Чалавек года Віцебска–2012».**

Хто стане пераможцам, павінны вызначыць чытачы сайту «Народныя навіны Віцебска», рэдакцыя якога ў першыя дні новага года традыцыйна выбірае намінантаў сярод людзей, якія фігуравалі ў навінах інтэрнэт-выдання і найбольш спрыялі гораду і яго вядомасці.

Адбор кандыдатур і галасаванне за пэўную асобу заўжды з'яўляецца прадметам грамадскай увагі ў абласным цэнтры. Шмат спрэчак выклікае тая акалічнасць, што «ННВ» прапануе вызначыць чалавека, які паспрыяў вядомасці Віцебску не толькі ў станоўчым, але і ў адмоўным сэнсе.

Сёлета чытачам прапануецца вызначыць самую выбітную асобу 2012 года з шасці намінантаў, вылучаных «ННВ». Гэта Павел Гарадноў, які абяцаў укласці інвестыцыі ў праект «Вітавія», але планы ператварыць Віцебск у цэнтр авіяперавозак не спраўдзіліся; Любоў Кавалёва, якая спрабуе вярнуць добрае імя свайму сыну, Уладзіславу Кавалёву, асуджанаму і расстралянаму за тэракт у мінскім метро; сябар КХП-БНФ Сяргей Каваленка, які трымаў галадоўку пратэсту ў зняволенні. А таксама мастакі Кірыл Кулікоў і Станіслаў Рабунскі — творчы калектыў «Duedro», які першым у Беларусі пачаў ствараць на вуліцах малюнкі з ілюзіяй аб'ёмнасці; рэжысёр Аляксандр Міта, які летась здымаў у Віцебску фільм пра Марка Шагала, і дзіцячы лекар Ігар Пасноў, звольнены з парцы пасля вострай крытыкі стану медычных установаў вобласці і асабіста старшыні аблвыканкаму Аляксандра Косінца.

Галасаванне адбываецца на галоўнай старонцы сайта news.vitebsk.cc.

**Матэрыялы падрыхтаваныя паводле сайта spring96.org**

ПРАБЛЕМА

## РАСІЯНЕ ЕДУЦЬ ПА СУРАГАТНАЕ МАЦЯРЫНСТВА

**Вольга ХВОІН**

**Бяздзетныя пары з Расіі пачалі заключаць дамовы на сурагатнае мацярынства з беларускамі.**

Адрозненні ў прававым рэгуляванні сурагатнага мацярынства ў Беларусі і Расіі змушаюць рускіх звяртацца да беларусак па дапамогу.

Згодна з беларускім заканадаўствам, паслугай сурагатнага мацярынства можа скарыстацца толькі жанчына, у заканадаўстве Расійскай Федэрацыі такога абмежавання няма, як і жорсткіх патрабаванняў да сурагатных маці. «Апроч здавальняючага стану здароўя, дапушчальнага ўзросту і наяўнасці ўласнага здаровага дзіцяці, іншых патрабаванняў да сурагатнай маці не прад'яўляецца», — цытуе адваката Аляксандра Пыльчанку БелТА.

У законе "Аб дапаможных рэпрадуктыўных тэхналогіях" ёсць норма аб тым, што дамова на сурагатнае мацярынства ў Беларусі мусіць быць натарыяльна завераная. Прадугледжаны і пералік абавязковых умоў для такой дамовы. У беларускім законе дакладна агавораны ўмовы, пры якіх жанчына мае права скарыстацца паслугай сурагатнага мацярынства. У прыватнасці, павінны быць медыцынскія паказанні, па якіх яна не можа выносіць і нарадзіць дзіця. Калі жанчына знаходзіцца ў шлюбе, то на сурагатнае мацярынства патрабуецца згода мужа.

Даволі жорстка вызначаны і патрабаванні, што прад'яўляюцца да сурагатнай маці. У яе не павінна быць медыцынскіх супрацьпаказанняў на выношванне і нараджэнне дзіцяці, яна павінна быць у шлюбе, мець дзяцей, а ўзрост жанчыны мусіць быць ад 20 да 35 гадоў. Сурагатнай маці не можа стаць жанчына, якая асуджалася за ўчыненне цяжкага, асабліва цяжкага злачынства супраць чалавека або праходзіць у якасці падазраванай, абвінавачванай па крымінальнай справе.

Паводле беларускага заканадаўства, генетычная маці юрыдычна з'яўляецца мамаю дзіцяці, а сурагатная — ніякіх правоў на дзіця не мае. Сурагатная маці толькі аказвае платную паслугу на падставе дамовы.

Ганарар за паслугі сурагатнай маці цяпер складае каля дзесяці тысяч долараў. Таксама генетычныя бацькі аплачваюць расходы на медыцынскае абслугоўванне, штомесячныя выплаты падчас цяжарнасці. У Беларусі ёсць некалькі прыватных кампаній, якія займаюцца медыцынскім турызмам. У пераліку іх паслуг ёсць і падбор патэнцыйных сурагатных маці.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## АБМЯРКУЕМ ПРАЕКТ УЗНАЎЛЕННЯ ГІСТАРЫЧНАГА ЦЭНТРУ МІНСКА

**Марат ГАРАВЫ**

**Антон Астаповіч заклікаў грамадскасць паўдзельнічаць у грамадскім абмеркаванні «Унясенне зменаў у горадабудаўнічы праект дэтальнага планіравання рэканструкцыі, рэстаўрацыі, аднаўлення і добраўпарадкавання Гістарычнага цэнтру горада Мінска».**

Грамадскае абмеркаванне праводзіцца з 5 па 20 студзеня адміністрацыяй Цэнтральнага раёна сталіцы. З матэрыяламі праекта можна азнаёміцца і пакінуць свае пісьмовыя заўвагі ў холе трэцяга паверха каля ўваходу ў актавую залу адміністрацыі ў будынку па вуліца Мельнікайтэ, 6. Пісьмовыя заўвагі і прапановы можна накіраваць і па пошце па адрасу: 220004, Адміністрацыя Цэнтральнага раёна сталіцы, вул. Мельнікайтэ, 6, г. Мінск, з пазнакай «Па пытанні грамадскага абмеркавання праекта дэтальнага планіравання Гістарычнага цэнтра Мінска».

Астаповіч заклікае ўсіх, каму неабыякавы лёс айчыннай гісторыка-культурнай спадчыны і лёс сталіцы, азнаёміцца з праектнай дакументацыяй і даслаць, адпаведна вызначанай працэдуры, заўвагі і прапановы ў пісьмовым выглядзе на пазначаны адрас. Са свайго боку таварыства будзе дамагацца публічнай сесіі абмеркавання і паведамляць пра недахопы праекта ў плане яго неадпаведнасці дзеючым нарматыўна-прававым, тэхнічным і метадычным дакументам.

Адначасова старшыня грамадскага аб'яднання выказаў заклапочанасць, што такі горадабудаўнічы дакумент, які мае вялікую важнасць не толькі для сталіцы, але і для ўсёй дзяржавы, абмяркоўваецца на ўзроўні раённай адміністрацыі, без запрашэння для ўдзелу ў абмеркаванні спецыялістаў у галіне гісторыка-культурнай спадчыны, прадстаўнікоў прафільных грамадскіх аб'яднанняў і творчых саюзаў.

Такое грамадскае абмеркаванне Астаповіч расцэньвае як фармальную працэдуру для зацвярджэння горадабудаўнічага дакумента, які легітымізуе ўжо зробленыя парушэнні нарматыўна-прававых, тэхнічных і метадычных дакументаў пры правядзенні прац у Гістарычным цэнтры Мінска, што прывядзе да страты ўсіх якасных характарыстык гэтай комплекснай нерухомай матэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасці.

БЕЗГАСПАДАРЧАСЦЬ

## ГОРКІ РАЗВАЛЬВАЮЦЦА

**Вольга ХВОІН**

**У Горках пасля капітальнага рамонту горада да «Дажынак» працягваюць «вылазіць» недаробкі будаўнікоў. Справа набывае нежартоўны характар — пад пешаходамі абрынуўся новы тратуар!**

«Дажынкі» толькі скончыліся, а ў прэсе з'явілася шакуючая інфармацыя пра пакрытыя цвіллю сцены ў новым інтэрнаце для студэнтаў Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі, падтапленне дажджавой вадой новенькага моладзевага цэнтра ў амфітэатры, разбураныя новыя тратуары, нявыкананыя абяцанні гарадскіх уладаў наконт рамонту.

Цяпер жа размова не пра сапсаваныя рэчы студэнтаў, а пра пагрозу жыццю і здароўю людзей. У цэнтры Горак недалёка ад райвыканкама два чалавекі праваліліся пад тратуарную плітку, што была пакладзеная да «Дажынак».

Маладыя жыхары горада Павел і Алеся прагульваліся па горадзе. Раптам жанчына правалілася пад зямлю, следам за ёй у яму ўпаў і Павел. Пасля здарэння Павел і Алеся далі тлумачэнні міліцыі, апісалі свае матэрыяльныя страты, атрымалі медыцынскую дапамогу. Жанчына скардзіцца, што цяпер у яе і мужа з'явіліся праблемы са здароўем, бо ў часе падзення яны атрымалі ўдары. Але галоўнае — Алеся баіцца хадзіць па горадзе з дзіцём, бо ўвесь час думае пра магчымае паўтарэнне надзвычайнага здарэння. Алеся і Павел плануюць падаць заяву ў суд, каб знайсці і пакараць вінаватых.

Бракам у працы будаўнікоў пасля завяршэння «Дажынак» зацікавіўся Камітэт дзяржкантролю, і нават Лукашэнка патрабаваў «строга пакараць вінаватых». Але інфармацыі пра вінаватых і адказных нідзе за гэты час не было.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ШТО ЗБЕРАЖЭМ У ГОД БЕРАЖЛІВАСЦІ?

Сяргей САЛАЎЁЎ



Фота motoforum.ru

**Літаральна напярэдадні Новага года Аляксандр Лукашэнка вырашыў, што 2013-ы будзе Годам беражлівасці. Уладныя органы раптам задумаліся, а што ж у гэты год ім зберагчы? Аказалася, зберагчы можна ўсё, што заўгодна. Але ўсё роўна атрымліваецца ў краіне, як у Прастаквашына — для таго, каб прадаць штосьці непатрэбнае, трэба спачатку набыць нешта непатрэбнае, а ў нас грошай няма. Так і ў Беларусі: Год беражлівасці будзе фінансавацца з рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў.**

Днямі ўрад распрацаваў і зацвердзіў рэспубліканскі план мерапрыемстваў па правядзенні ў Беларусі Года беражлівасці. Адказным за яго выкананне прызначана Міністэрства эканомікі.

Усяго Рэспубліканскі план мерапрыемстваў па правядзенні Года беражлівасці налічвае 25 пунктаў. «Гэта мерапрыемствы, накіраваныя на забеспячэнне рэжыму эканоміі і беражлівасці, максімальна эфектыўнага і рацыянальнага выкарыстання прыродных, паліўна-энергетычных, матэрыяльных і працоўных рэсурсаў», — рапартуе прэс-служба ўрада.

Што ж нам прапануюць берагчы? Па-першае, гэта энергарэсурсы: сумарная эканомія паліўна-энергетычных рэсурсаў павінна скласці не менш як 1,43 мільёна тон умоўнага паліва. Акрамя гэтага, згодна з планам, будуць рэалізаваны пілотныя інавацыйныя праекты па зніжэнні энергаспажывання ў энергетыцы, машынабудаванні, сельскай гаспадарцы, будаўніцтве, транспарце, здабыўной і перапрацоўчай прамысловасці.

Плануецца ўзмацненне жорсткасці нормаў і нарматываў расходу матэрыяльных рэсурсаў, якія забяспечваюць зніжэнне выдаткаў на вытворчасць прадукцыі (работ, паслуг). Будуць зацверджаны ліміты і прагрэсіўныя нормы расходу цеплавых і энергетычных рэсурсаў, у тым ліку нарматывы непрадукцыйных страт пры транспартаванні вады, цеплавой і электрычнай энергіі, — гэта, бадай, стандартныя меры, якія былі прадугледжаныя яшчэ ў Дэкрэце прэзідэнта па беражлівасці.

Прадугледжана ўвядзенне падвышанага кошту за паліўна-энергетычныя рэсурсы пры іх перавышэнні. Больш жорсткімі стануць патрабаванні да правядзення абавязковых энергетычных абследаванняў суб'ектаў гаспадарання з улікам передавога айчыннага і замежнага вопыту. Хаця які можа быць прагрэсіўны замежны вопыт у кантролі і абследаванні? Наш Камітэт дзяржкантролю — самая перадавая ў гэтым плане структура ва ўсім свеце!

Аднак не толькі вада і электраэнергія з'яўляюцца аб'ектам беражлівасці. Як паведамляе прэс-служба Саўміна, «рэжым жорсткай эканоміі бюджэтных і валютных рэсурсаў будзе дзейнічаць пры ажыццяўленні дзяржаўных закупак». Во-во, што нам берагчы трэба — дык гэта валюту. Нам яшчэ крэдыты ў гэтым годзе аддаваць. Таму, здаецца, тут зэканоміць не атрымаецца.

Прынцыпы эканоміі і беражлівасці тычацца мер па зніжэнні затрат на аказанне жыллёва-камунальных паслуг насельніцтву (не менш чым на 10% у супастаўных умовах у параўнанні з 2012 годам) і «ў сферы дарожнага будаўніцтва». У прыватнасці, прадугледжана аптымізацыя праектных рашэнняў, якая забяспечвае патанненне будаўніцтва дарог, эфектыўнае выкарыстанне тэхнікі, эканомію матэрыяльных рэсурсаў з максімальным выкарыстаннем айчынных матэрыялаў.

Што значыць «аптымізацыя дарожнага будаўніцтва»? Зноў адна традыцыйная праблема будзе вырашаць другую праблему? Бо пабудуеш дарогу з «аптымізацыяй» — і на наступны год яе трэба будзе будаваць наноў, гэта ўсе ведаюць.

Але ж самы яскравы прыклад беражлівасці, згодна з планам, наш урад абяцае нашаму народу. «У краіне з'явяцца новыя высокаэфектыўныя працоўныя месцы. Будуць прыняты меры па ліквідацыі працоўных месцаў з асабліва шкоднымі і цяжкімі ўмовамі працы, уключэнню ў эканамічную дзейнасць незанятага насельніцтва, садзейнічанню ў арганізацыі прадпрымальніцкай дзейнасці», — гаворыцца ў плане Года беражлівасці.

Спадарства, вы не на прэзідэнцкія выбары ідзяце, каб такое абяцаць! Гэта ўсяго толькі план Года беражлівасці, а не генеральны план развіцця краіны на бліжэйшыя дзесяцігоддзі! Гэтага ўсяго мы не дамагліся з моманту абвяшчэння незалежнасці Беларусі, а вы хочаце зрабіць гэта за год!

Але пакуль што ўлада не вельмі імкнецца берагчы, асабліва грошы. Ну, чым прэзідэнта не задавальняў яго сайт? Але ж хутка мы пабачым новы яго рэдызайн. Новы партал кіраўніка краіны плануюць запусціць ужо вясной. На яго стварэнне выдаткавана 2 мільярды 600 мільёнаў рублёў. Аднак, адпаведны Указ №577 «Аб удакладненні асобных паказчыкаў рэспубліканскага бюджэту на 2012 год» падпісаў Аляксандр Лукашэнка 29 снежня, таму гэтыя траты, пэўна, Года беражлівасці не тычацца. Да таго ж, сродкі выдзяляюцца з рэзервовага фонду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Было б добра, калі б мы пагасілі ўсе замежныя крэдыты таксама з гэтага фонду. Што там яшчэ ў заначцы?

Першыя вынікі Года беражлівасці мы пабачым вельмі хутка. Пасярод святаў Лукашэнка правёў рабочую сустрэчу з кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта Андрэем Кабяковым і сваім памочнікам Наталляй Пяткевіч, якія ўзначальваюць створаную ў кастрычніку 2012 года дзяржаўную камісію для выпрацоўкі прапаноў па аптымізацыі структуры, колькасці і функцый дзяржаўных органаў. Камісіі было даручана да 30 снежня мінулага года ўнесці Лукашэнку адпаведныя прапановы. Падчас рабочай сустрэчы абмяркоўваліся папярэднія вынікі работы.

«Калі мы гаворым пра дэбюракратызацыю, то, натуральна, трэба, каб чыноўнікаў было менш. Калі чыноўнікаў шмат, яны ўсё роўна знойдуць сабе магчымасць займацца нават тымі пытаннямі, якія нам не патрэбныя і якія якраз уваходзяць у пералік таго бюракратызму, супраць якога мы з вамі змагаемся, — адзначыў Лукашэнка. — З іншага боку, гэта не павінна быць чыста механічна. Бо мы можам нанесці шкоду дзяржаўнаму кіраванню. Ёсць пэўныя ўстояныя законы, хай яны суб'ектыўныя, але яны выпакутаваныя людзьмі, і трэба выразна ўяўляць, колькі ў арганізацыі павінна быць чалавек, каб яна эфектыўна працавала».

Пагроза, як мы даведаліся, найперш навісла над міністэрствамі гандлю і ЖКГ. Менавіта гэтыя ведамствы Кабякоў і Пяткевіч запланавалі «пусціць пад нож». Але і тут, як сказаў прэзідэнт, спяшацца не трэба. «Што датычыць скарачэння асобных органаў, міністэрстваў, ведамстваў, шчыра кажучы, я не гатовы па гэтаму напрамку прымаць рашэнне. Трэба яшчэ раз параіцца з урадам і іншымі», — адзначыў ён.

То бок, пачаў скарачэнне Лукашэнка з абмеркавання гэтага пытання з сілавікамі, але, здаецца, вырашыў іх зберагчы, а скараціць ЖКГ і гандаль. Зразумела, абараняць прэзідэнта будуць у выпадку чаго не дворнікі з гандляркамі…

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ЯЎГЕН ЛІТВІНКОВІЧ



Ураджэнец Жодзіна Яўген Літвінковіч дайшоў да суперфіналу ўкраінскага тэлешоў «Х-фактар–3». І хаця пераможцам стала Аіда Нікалайчук, выканаўца з Беларусі за час здымак шоў знайшоў вялікую падтрымку сярод тэлегледачоў ва Украіне і ў Беларусі. Сябры журы конкурсу таксама надзвычай прыхільна ставіліся да Яўгена, адзначалі яго артыстызм і адданасць справе.

Пераможца шоў атрымала галоўны прыз — 2 мільёна грыўняў (250 тысяч долараў). Аіда дагэтуль працавала касірам, у яе маленькі сын.

Цікава, што прадзюсарам і Аіды, і Яўгена з'яўляецца адзін чалавек — гэта Ігар Кандрацюк. Літвінковіч нават называў Кандрацюка «вялікім шахматыстам», які здольны ўсё прадумваць на два крокі наперад. Прадзюсар паабяцаў запісаць Літвінковічу песню і зняць кліп.

Яўген летась перамагаў на шоў «Украіна мае талент», ён таксама браў удзел у аналагічным конкурсе ў Мінску, але ў Беларусі яго талент аказаўся не запатрабаваны.

### ВІКТАР ШЭЙМАН



Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка вызваліў Валянціна Рыбакова ад пасады памочніка прэзідэнта Беларусі ў сувязі з пераходам на іншую працу. Віктара Шэймана прызначыў памочнікам прэзідэнта Беларусі па асаблівых даручэннях, вызваліўшы яго ад пасады памочніка прэзідэнта па асобых даручэннях, прадугледжанай у структуры Дзяржаўнага сакратарыята Савета бяспекі. Адпаведныя распараджэнні кіраўнік дзяржавы падпісаў 8 студзеня.

Віктар Шэйман уваходзіць у самае бліжэйшае атачэнне Аляксандра Лукашэнкі яшчэ ад першых выбараў у 1994 годзе. За час сваёй кар'еры на дзяржаўнай службе Шэйман займаў пасаду дзяржсакратара Савета бяспекі, быў памочнікам прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы, генеральным пракурорам, кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта. Апошнія гады Шэйман курыраваў кантакты з Венесуэлай.

Пасля выбуху на Дзень незалежнасці ў 2008 годзе Шэймана адправілі ў адстаўку з пасады дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі. Тады на адмысловай нарадзе Лукашэнка заявіў: «Не думаю, што вы павінны заставацца на гэтай пасадзе пасля інцыдэнту. Вы вінаватыя перш за ўсё! Вы па даручэнні прэзідэнта не адзін год, а дзесяць гадоў арганізуеце падобныя мерапрыемствы. І нічога не зрабілі!».

### УЛАДЗІМІР СЯМАШКА



Скандалам абярнуўся візіт першага віцэ-прэм'ера Уладзіміра Сямашкі на прадпрыемства «Дываны Брэста». Прадзільніцы дамагліся сустрэчы з высокімі чыноўнікамі, у тым ліку і са старшынёй канцэрна «Беллегпрам» Міхаілам Сучковым, ды паказалі ім свае разліковыя лісткі з мізэрнымі заробкамі.

З-за прастою на прадпрыемстве работніцы «Дыванаў Брэста» змушаныя існаваць на 300 тысяч рублёў у месяц. «Мы ямо шэры хлеб — з супам і на дэсерт. Здаём кроў, каб выжыць. Нашы дзеці засталіся без падарункаў на Новы год», — цытуе словы адной з жанчын інтэрнэт-газета «Салідарнасць». У прыватнасці разьбяр аздобнага цэха ААТ «Дываны Брэста» Галіна Марчук паведаміла, што з красавіка 2012 яна і яе калегі працуюць некалькі дзён у месяц, і плацяць ім каля 300 тысяч рублёў. Галіна працуе на фабрыцы ад 1986 года, але падобнага крызісу ўспомніць не можа.

«Улетку мы ездзілі ў калгасы падпрацаваць, а цяпер зіма — як нам жыць? — дзеліцца Галіна Марчук. — Мы пачулі, што павінен прыехаць Сямашка, і вырашылі з ім сустрэцца».

Па словах Галіны, начальства «Дываноў Брэста» хавала візіт віцэ-прэм'ера ад работніц. Галіна прызнаецца, што для яе было шокам тое, што Сямашка, мабыць, не хацеў з імі сустракацца. «Мне гэта дырэктар пазней пацвердзіў, сказаўшы, што заказвае музыку той, хто плаціць. Гэта так сорамна для вялікага начальства баяцца сустрэцца з простымі людзьмі! Мы чакалі, што другі чалавек ва ўрадзе спытае нас: «Людзі, як вы жывяце?»

Сустрэча з Уладзімірам Сямашкам скончылася абяцаннямі.

▸ АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ПАТРЭБНЫ БЕЛАРУСКІ ВАРЫЯНТ НАВАМОЎЯ

Сяргей НІКАЛЮК

**Улада гатовая ахвяраваць формай, каб захаваць аўтарытарны змест. Толькі да гэтага яна і спрабуе звесці палітычную мадэрнізацыю.**




Патрэбу ў палітычнай мадэрнізацыі філосаф Вячаслаў Оргіш звязаў з «эфектам мігатлівых светлячкоў» (гл. «Азбуку паліталогіі» за 14 снежня 2012 года). Каб зразумець гэта, нам трэба разабрацца з такой з'явай, як «аўтасінхранізацыя». Не палохайцеся, за межы школьнага курсу матэматыкі выходзіць для гэтага не давядзецца. Цытую: «Калі 5–10% прадстаўнікоў той ці іншай супольнасці пачынаюць здзяйсняць якія-небудзь дзеянні сінхронна, то ўсе астатнія іх аўтаматычна бяруць за прыклад. Напрыклад, так уначы ўспыхваюць светлячкі ў Паўднёва-ўсходняй Азіі».

Начытаўшыся мудрагелістых артыкулаў у інтэрнэце, філосаф спалохаўся сам і зараз спрабуе напалохаць іншых ідэяй «палітычнага спецназу», накіраванага на татальную крытыку палітычнага рэжыму і здольнага сваёй энергіяй заразіць лаяльную да ўлады большасць. Такая, на яго думку, логіка сучасных рэвалюцыйных тэхналогій у краінах, «асуджаных» да «мадэрнізацыі».

Уся справа ў дасягненні крытычнай масы. Пасля гэтага натоўп «светлячкоў» успыхне аўтаматычна, і «рэжысёрам застаецца толькі накіраваць утвораную энергію рэвалюцыйнага негатывізму на дабіванне палітычнага рэжыму».

Рэжысёры («палітычнага спецназу») — гэта, як чытачы ўжо здагадаліся, наша несістэмная апазіцыя. «Адарваная ад сістэмнай палітычнай практыкі, прыціснутая матэрыяльнай патрэбай, яна непазбежна сустракаецца і ўступае ва ўзаемадзеянне з сіламі, якія заклапочаны дэмакратычнай мадэрнізацыяй».

## Прафесійны гісторык і рэвалюцыя

З апошняй цытаты вынікае, што несістэмная апазіцыя і сілы, заклапочаныя дэмакратычнай мадэрнізацыяй, калі і перасякаюцца ў Беларусі, то толькі ва ўмовах палітычнай узрушанасці грамадства, калі пачынае разгортвацца «эфект мігатлівых светлячкоў».

Нічога арыгінальнага ў падобным размежаванні няма. Папулярная ў адзінага палітыка (АП) ідэя «пятай калоны» на гэтым і грунтуецца. Яе прадстаўнікі, маўляў, калі кагосьці і прадстаўляюць, то ў лепшым выпадку сябе.

Аднак паслядоўнасць у меркаваннях ніколі не была моцным бокам АП. Як тут ні прывесці фрагмент яго прэс-канферэнцыі ад 20 снежня 2011 года: «*Давайте будем честны: 20% или высказались против, или проголосовали за альтернативных кандидатов. Согласитесь, что есть над чем подумать*».

Пагодзімся і падумаем. А дапамогуць нам у гэтым апытанні НІСЭПД, паводле якіх колькасць прыхільнікаў дэмакратычных каштоўнасцяў у Беларусі ніколі не апускалася ніжэй за 25 працэнтаў. На НІСЭПД як на аўтарытэтную інстанцыю спасылаецца і філосаф. У люстэрку незалежнай сацыялогіі ён разгледзеў, што 9,6% беларусаў свядома адгукаліся на заклік да байкоту. Але для пачатку паўстання патрэбна 5–10%. Як тут не пабегчы за памперсамі!

У свой час Юрый Андропаў у артыкуле, апублікаваным у часопісе «Камуніст», раскрыў адну з галоўных таямніц савецкай наменклатуры: «Мы не ведаем грамадства, у якім жывём». Няведанне — пажыўнае асяроддзе для шматлікіх тэорый змоваў. Сваю версію і прапануе нам філосаф. Не маючы патрэбы ў сусветным закуліссі, ён робіць упор на радыкальную апазіцыю беларускага разліву.

А дзе радыкалы — там і так званыя «каляровыя рэвалюцыі». Яны — галаўны боль усіх аўтарытарных постсавецкіх рэжымаў. Тым часам унёсак палітычнай эліты ў рэвалюцыю заўсёды быў несувымерны з унёскам апазіцыі (контрэліты). Гэту думку і спрабаваў данесці да АП былы тэлекілер Сяргей Дарэнка ў 2011 годзе:

«*С. ДОРЕНКО: Все революции создает власть, все до одной. Ленин и царь — сравните. Какая власть у Ленина? Ноль.*

*А. ЛУКАШЕНКО: Правильно. Десять тысяч человек перевернули Россию.*

*С. ДОРЕНКО: Это царь сделал революцию*».

Як тут ні прыгадаць гутарку двух глухіх: «Ты ў лазню? — Не, я ў лазню. — А я думаў, ты ў лазню». З заўвагай Дарэнкі з нагоды нулявога ўнёску Леніна ў рэвалюцыю АП згаджаецца, і тут жа дадае, што для здзяйснення рэвалюцыі хапіла 10 тысяч чалавек.

Ён — прафесійны гісторык. Яму лепш бачна, як у імперыі, якая займае 1/6 частку сусветнай сушы, атрымалася зрынуць манархію, не звяртаючыся да «эфекту мігатлівых светлячкоў».

## Канструктыўнасць як сінонім лаяльнасці

Вось ужо 18 гадоў рэйтынг АП, нібы альпініст, падымаецца на электаральныя пікі, каб затым спусціцца ў электаральныя даліны. І ні разу як уздым, так і спуск не былі звязаныя з дзейнасцю апазіцыі. Прыгадаем мінулы год з яго трохкратнай інфляцыяй. Варты інфляцыі быў і рэйтынг — 20,5% (гістарычны мінімум).

Аднак факты ў якасці крытэру ісціны філосафа не цікавяць. Ён упэўнены, што магчымасць эксцэсаў накшталт «плошчы», «майдана», якія азначаюць выкід пратэстнай энергіі, палягае выключна ў пазасістэмным спосабе існавання контрэліты. А калі так, дык верагоднасць пратэстных рэцыдываў будзе захоўвацца, пакуль гэты спосаб існавання не ўдасканаліцца.

Якім чынам нейтралізаваць пазасістэмную эліту? Адказ просты: ёй трэба супрацьпаставіць сістэмную (канструктыўную, адказную) контрэліту. Яе з'яўленне «натуральным чынам лімітуе маргінальную дзейнасць непрымірымых палітычных сілаў, абмяжуе праявы радыкалізму, накіруе пратэстную энергію, якая ў тым ці іншым аб'ёме прысутнічае ў кожным грамадстве, у рэчышча рэфармісцкай ідэалогіі».

Тут самы час разабрацца з вызначэннямі «непрымірымы» і «канструктыўны». Пад першае вызначэнне ў Беларусі трапляюць усе тыя, хто ставіць сваёй мэтай адхіліць кіроўную групоўку ад улады. І не важна, што для дасягнення падобнай мэты плануецца выкарыстоўваць выключна канстытуцыйныя сродкі (выбары).

Паняцці ж «канструктыўны» ў яго афіцыйным тлумачэнні з'ўляецца сінонімам паняцця «лаяльны». Вось на такую апазіцыю і расце сёння попыт. Яе выхад на палітычную сцэну «будзе азначаць (г. зн. імітаваць — С.Н.) грунтоўную палітычную мадэрнізацыю беларускага грамадства ў адпаведнасці з імператывамі еўрапейскай палітычнай культуры» (ну як вам стыль!).

Успомнім, як у жніўні 2011 года АП прапанаваў сесці за стол перамоваў «*всем здравомыслящим и любящим свою страну людям, к какому бы политическому лагерю они ни принадлежали*». Разважлівыя людзі ад такой прапановы, натуральна, заварушыліся, але тут якраз падаспеў з тлумачэннямі старшыня ўпраўлення ЗАТ «Другі нацыянальны тэлеканал» Рыгор Кісель: «Напэўна, прэзідэнт, агучваючы сваю ідэю, меў на ўвазе наступнае: збірайцеся левыя, правыя, непрымірымыя, прыхільнікі, выпрацоўвайце прапановы нават без удзелу ўлады і ўносіце іх. Калі прапанова вартая, то ніводная нармальная ўлада, якая адчувае праблемы ў эканоміцы ці фінансах, не можа яго ігнараваць, паколькі для ўлады яна карысная».

Ну як пасля гэтага не расплакацца ад замілавання! Улада зацікаўленая ў прапановах апазіцыі, але толькі ў тых, якія для ўлады карысныя!

Пасля 1905 года для такой палітыкі быў прыдуманы адмысловы тэрмін — «гапонаўшчына». Царская ахранка яе актыўна праводзіла, але адкрыта не рэкламавала. Але часы змяніліся…

## Словы, словы, словы…

Мне ўжо неаднаразова даводзілася пісаць пра тое, што галоўнай характарыстыкай беларускага грамадства з'яўляецца раскол. Паміж эканамічна актыўнай «меншасцю» і «большасцю», не здольнай выжыць без дзяржаўнай апекі, сёння палягае прорва. Яна аб'ектыўная і таму цалкам непераадольная, але крутасць яе берагоў можа быць згладжаная.

Эфектыўная дзяржаўная палітыка ва ўмовах расколу — гэта мэтанакіраваная дзейнасць па пошуку медыяны. Аднак беларуская дзяржава не жадае выконваць ролю медыятара. Пра якое ўзгадненне інтарэсаў расколатага грамадства можа ісці гаворка, калі дзяржава адмаўляе «меншасці» ў праве на існаванне? Выказванне ад 20 снежня 2010 года, прыведзенае вышэй, з'ўляецца тым рэдкім выключэннем, якое толькі пацвярджае правіла.

Прапановы філосафа па фармаванні канструктыўнай апазіцыі, «якая разумее пазітыўны сэнс кампрамісу паміж элітай і контрэлітай», не выходзіць за межы паняцця «імітацыйная дэмакратыя». Тут галоўнае, каб падчас імітацыі дэмакратычных формаў не паўстала жаданне замахнуцца на змест, г. зн. не дапусціць магчымасць рэальнай замены эліты на контрэліту.

Але з'яўленне ў палітычным жыцці Беларусі такой жаданай контэліты «пакуль застаецца праблемай». Уся справа, на думку філосафа, у адсутнасці мовы зносін. Ліквідацыю гэтага прагалу варта пачынаць з мадэрнізацыі слоўніка, «якім карыстаюцца асноўныя гульцы палітычнага поля».

З такой фундаментальнай прапановай цяжка не пагадзіцца. Як тут ні згадаць навамоўе з рамана «1984» Джорджа Оруэла: «Мэта навамоўя — скараціць абсяг дзеяння думкі. Урэшце мы зробім немагчымым само існаванне думзлачынстваў, бо папросту не застанецца словаў, якімі іх можна будзе выказаць. Кожнае паняцце, якое калі-небудзь трэба будзе выказаць, будзе азначацца толькі адным словам, пры гэтым яго сэнс будзе дакладна акрэслены, а розныя дадатковыя адценні значэння будуць зліквідаваныя і забытыя. <…> Вядома ж, ужо сёння не існуе ніякіх падстаў для апраўдання думзлачынстваў. Гэта проста пытанне самадысцыпліны, кантролю рэчаіснасці. Але ўрэшце і гэта не спатрэбіцца. Рэвалюцыя пераможа канчаткова, калі мы створым дасканалую мову».

А зараз — тыя ж думкі, але ў выкладзе філосафа (прабачым яму мудрагелістасць): «Ангажаваны палітычнай кан'юнктурай розум разам з гаворкай выкавалі ідэалагічны абруч, пры дапамозе якога наша свядомасць збірае і фіксуе палітычную рэчаіснасць у тым выглядзе, які, як прызнаюць гульцы, час абнавіць. Таму гаворку на тэму мадэрнізацыі палітычнага працэсу варта пачынаць з дыскусіі пра словы, якія цэментуюць ***стары парадак адносін*** (вылучана мной — С.Н.). Не дасягнуўшы кансенсусу адносна слоўніка, яго новай рэдакцыі, цяжка спадзявацца, што калёсы пакоцяцца хутка».

Вось мы і дабраліся да сутнасці газетнага опуса аб'ёмам у 43,5 тысячы знакаў. Яго аўтар заклапочаны выключна праблемай цэментавання старога парадку адносін. Ну што ж, дзякуй за шчырасць.

ВАЛЮТА

# ШТО БУДЗЕ З КУРСАМ? ПРАГНОЗ ЦЬМЯНЫ — АД 8950 ДА 14000

Вольга ХВОІН

**Панікёрства ў эканоміцы добра праілюстраваў постнавагодні выпадак. Калі хмель у галовах яшчэ не развеяўся, аднаго інфармацыйнага ўкіду стала дастаткова, каб беларусы сутаргава ўзяліся за розум.**



У сацыяльнай сетцы Facebook з’явіўся фотаздымак SMS, нібыта адпраўленага з гарадскога тэлефоннага нумара кол-цэнтра Нацбанка. У ім сцвярджалася, што старшыня Нацбанка Надзея Ермакова падпісала дакумент, адрасаваны абласным упраўленням Нацбанка і «Беларусбанку», згодна з якім 8 студзеня курс долара ўстанаўліваецца на ўзроўні 14 340 рублёў, еўра — 18 116.

Прадчуваючы страшныя наступствы ад нявіннага фота, абвяргаць інфармацыю кінуліся Нацбанк і нават КДБ (!). Камітэт дзяржаўнай бяспекі Беларусі распаўсюдзіў паведамленне аб тым, што на інфармацыйныя рэсурсы нацыянальных мабільных аператараў МТС і Velcom зафіксавана хакерская атака ў выглядзе ананімных SMS-рассылак на тэлефоны абанентаў. У якасці першакрыніцы інфармацыі шляхам падмены адрасу рэальнага адпраўніка паказаны тэлефон, які належыць Нацыянальнаму банку Беларусі. Папярэдне было ўстаноўлена, што рассылкі ажыццяўляліся праз сервер, які знаходзіцца на тэрыторыі Індыі.

«Гэтая інфармацыя — адкрытае трызненне і правакацыя, — заявіў БелаПАН прэс-сакратар Нацыянальнага банка Аляксандр Цімашэнка. — Гэта было б смешна, калі б не было так па-дурному. Ніхто не адмяняў устаноўленых правілаў курсаўтварэння».

**Непрыемныя вуху лічбы называе эканаміст Леанід Злотнікаў. Паводле яго ацэнак, каб падтрымліваць спрагназаваны ўзровень дабрабыту насельніцтва, спатрэбіцца мінімум 8 мільярдаў долараў**

Назаўтра Нацбанк распаўсюдзіў паведамленне, у якім гаворыцца, што «абменны курс беларускага рубля ў 2013 годзе будзе фармавацца зыходзячы з попыту і прапановы замежнай валюты пры мінімальным удзеле Нацыянальнага банка Беларусі ў гэтым працэсе выключна ў мэтах недапушчэння рэзкіх ваганняў». Пры гэтым Нацбанк тлумачыць: пры павышаным попыце на замежную валюту курс зніжаецца, і, наадварот, пры залішняй прапанове замежнай валюты беларускі рубель умацоўваецца. «Такая зменлівасць курса адлюстроўвае толькі рынкавы механізм яго фарміравання, але не сведчыць аб наяўнасці прычын для ўстойлівага руху абменнага курсу ў той ці іншы бок», — гаворыцца ў паведамленні Нацбанка.

Там адзначаюць, што «стабільнасць функцыянавання валютнага рынку і абменнага курсу ў значнай ступені будзе залежаць ад збалансаванасці і эфектыўнасці працы ўсёй эканомікі».

На бягучы год Нацбанк прагназуе курс беларускага рубля ў першым квартале 2012 года на ўзроўні 8 000–8 500 за долар. «Раней агучаны прагноз Нацбанка аб сярэднегадавым курсе долара ў наступным годзе ў памеры 9 150 за долар — гэта песімістычны варыянт, — патлумачыла старшыня галоўнай фінансавай установы краіны Надзея Ермакова. — Сёння курс значна ніжэй. І мы ўжо па разліках бачым, што дзесьці ён на ўзроўні 8 000–8 500 тысяч рублёў будзе трымацца першы квартал адназначна. Потым усё будзе залежаць ад таго, як у нас будзе складацца знешнегандлёвае сальда».

Эканамісты ў сваіх прагнозах называюць большыя лічбы. Так, былы старшыня праўлення Нацыянальнага банка Станіслаў Багданкевіч мяркуе, што сёлета долар будзе каштаваць больш за 10 000 беларускіх рублёў, а закладзены ў бюджэт сярэднегадавы курс долара ЗША ў 8 950 рублёў вытрымаць улады не змогуць.

«Я лічу гэты курс заніжаным, яны яго не вытрымаюць, — заявіў БелаПАН Станіслаў Багданкевіч. — Дэвальвацыя будзе павольнай і паступовай».

Эксперты з Даследчага цэнтра Інстытута прыватызацыі і менеджменту ў сваім прагнозе на 2013-ы год адзначаюць, што калі Беларусь не зведае нейкіх дадатковых сур’ёзных шокаў і будзе ў стане забяспечыць адносна прымальныя ўзроўні інфляцыі і дэвальвацыі (то бок аптымістычны сцэнар), сярэднегадавая інфляцыя будзе на ўзроўні 22,04 %, а абменны курс на канец перыяду каля 9 800 рублёў за долар. «Аднак у выпадку негатыўных шокаў, даступных інструментаў у рамках бягучага рэжыму манетарнай палітыкі можа быць недастаткова для супрацьстаяння. Тады намінальныя паказчыкі (інфляцыя і дэвальвацыя) могуць істотна адхіліцца ад прагнозных значэнняў у рамках базавага сцэнару», — пішуць аналітыкі ў сваім прагнозе.

Непрыемныя вуху лічбы называе эканаміст Леанід Злотнікаў. Паводле яго ацэнак, каб падтрымліваць спрагназаваны ўзровень дабрабыту насельніцтва, спатрэбіцца мінімум 8 мільярдаў долараў (на фоне вялікіх выплат па знешніх пазыках, скарачэння валютных паступленняў ад экспарту). Грошы кіраўніцтва дзяржавы будзе шукаць усімі даступнымі шляхамі, а вось курс долара можа быць ад 9 500 да 14 000 беларускіх рублёў.

Незалежныя эксперты падкрэсліваюць уразлівасць беларускай эканомікі, чаго ўласна імкнуліся пазбегнуць 4 студзеня Нацбанк і КДБ, аператыўна каментуючы «качку» пра новыя курсы валют.

«Высокія і няўстойлівыя інфляцыйныя і дэвальвацыйныя чакання з’яўляюцца асноўнай праблемай для манетарнай палітыкі ў 2013 годзе. У значнай ступені гэтая праблема з’яўляецца спадчынай валютнага крызісу 2011 года, але, у пэўнай меры, гэта таксама і следства адсутнасці відавочнага намінальнага «якара» ў манетарнай палітыцы. Эканамічныя агенты, не маючы дакладнага і з паказчыкам даверу «якара», з якім можна суадносіць свае чаканні, могуць у любы момант істотна змяніць свае паводзіны на грашовым і валютным рынках, тым самым генеруючы адпаведныя шокі», — адзначаюць аналітыкі Даследчага цэнтру Інстытута прыватызацыі і менеджменту.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# ПАЛІТЭКАНОМІЯ Ў ЛАЗНІ



**Просты люд у нашых шыротах выпівае і закусвае, так бы мовіць, святкуе ад каталіцкіх Каляд да старога Новага года. Але для асэнсавання і ўдакладнення фактычных вынікаў гаспадарскай і фінансавай дзейнасці патрабуецца нашмат болей часу.**

На гэтым полі шчыруюць чыноўнікі, эксперты, палітыкі. І, дзіўная рэч, у чыноўнікаў і афіцыйных палітыкаў вынікі гэтыя, па-першае, — выключна выбітныя, а па-другое, дасягнутыя дзякуючы іх чуйнаму кіраўніцтву. Асобныя ж недахопы і пэўныя правалы тлумачацца ці выпадковым збегам абставін, ці ўздзеяннем адмоўных аб’ектыўных фактараў, ці падкопамі ворагаў.

У адрозненні ад палітыкаў, экспертныя агенцтвы імкнуцца да большай рэальнасці, каб зразумець логіку развіцця тых ці іншых працэсаў і выбудаваць верагодную мадэль развіцця сітуацыі ў перспектыве. Прыкладам, міжнароднае рэйтынгавае агенцтва Standard & Poor’s у сваёй справаздачы адзначыла, што «стабілізацыя макраэканамічных акалічнасцяў у Беларусі застаецца няўстойлівай». Па меркаванні экспертаў, краіна да гэта яшчэ адчувае наступствы тых шокавых падзей на фінансавым рынку і рэзкай дэвальвацыі нацыянальнай валюты, якія адбыліся яшчэ пазалетась.

З імі не пагаджаюцца сам Лукашэнка і, зразумела, яго ўрад, якія называюць вынікі сваёй дзейнасці ў мінулым годзе збольшага станоўчымі. У прыватнасці, пазітыўна яны ацэньваюць палітыку ўрада па абмежаванні імпарту і пашырэнні беларускага экспарту.

Звернемся, аднак, да лічбаў. Прыкладам, імпарт легкавікоў. За студзень—кастрычнік 2012 года ў Беларусь было завезена 68 тысяч легкавых аўтамабіляў, або 25,1% ад колькасці, імпартаваных за 10 месяцаў 2011 года. Пры гэтым сярэдняя цана аўтамабіля склала 11 082 долараў, перавысіўшы кошт 2011 года на 24,7% (8 085 долараў). Пры гэтым імпарт аўто з Расіі павялічыўся ў 2,74 разы і дасягнуў 8 тысяч штук. Але імпарт з далёкага замежжа, тым часам, зменшыўся да 60 тысяч (22,4%).

Вось такая палітычная эканомія. З аднаго боку, катастрафічна зменшыўся ўвоз «іншамарак», пры тым, што сярэдняя цана істотна ўзрасла. Адзначым, што беларускі экспарт таксама ўзрос, але да гэтага часу яшчэ не дазволіў падвысіць заробкі ў народнай гаспадарцы да ўзроўню пачатку 2011 года. А сёння на календары ўжо 2013 год.

Па-другое, хаця ўвоз у Беларусь расійскіх аўто істотна павялічыўся, але, як і раней, яны складаюць відавочна меншую частку легкавікоў, якія імпартуюцца. Па-трэцяе, палітыка ўрада па стымуляванні продажу расійскіх аўтамабіляў не дасягнула мэты, але дазволіла Беларусі разлічваць на атрыманне ад Расіі крэдытаў і розных іншых прэферэнцый.

Як мяркуюць замежныя аналітыкі, хаця 2012 год быў абвешчаны ўрадам перыядам макраэканамічнай стабільнасці, ён на практыцы праводзіў тую ж палітыку, скіраваную на стымуляванне эканамічнага росту, якая праводзілася да 2010 года і прывяла да валютна-фінансавага крызісу напачатку 2011 года.

Як лічаць знешнія эксперты, галоўнай рызыкай для эканомікі Беларусі з’яўляецца вяртанне да практыкі выканання дырэктыўных паказчыкаў, якія набываюць для ўрада большы прыярытэт, чым макраэканамічная стабільнасць.

Дарэчы, гэта праблема, як адзначаюць сацыяльныя псіхолагі, з тых, калі на першы план дыскусіі выходзяць не рацыянальныя аргументы, а эмацыянальная рэакцыя, што грунтуецца на мінулым вопыце, на сваім абмежаваным досведзе. Так і чуецца знакамітая некалі фраза спартыўнага каментатара Мікалая Озерава — «Такі хакей нам не патрэбны», якая трансфармавалася ў сучасных кіраўнікоў у фразу: «Такая дэмакратыя, такая рынкавая эканоміка нам не патрэбныя». Асацыяцыя з хакеем тут невыпадковая. Пад патранажам Лукашэнкі быў арганізаваны спецыяльны калядны хакейны турнір, на якім традыцыйна беларуская каманда перамагае ўсіх, уключна з канадскімі прафесіяналамі.

Гэтак жа і ў палітычнай эканоміі.

Марцін Гілман, які быў шматгадовым прадстаўніком Міжнароднага валютнага фонду ў Расіі, распавядаў, як выканаўчы дырэктар МВФ Камдэсю, не меўшы ніякага захаплення ні рускай лазняй, ні паляваннем, аднак, не адмаўляўся прымаць такія запрашэнні ад прэм’ера Чарнамырдзіна, каб кожны раз давесці да гаспадара аргументы на карысць рэформы расійскай эканомікі. Чарнамырдзін, як адзначыў Марцін Гілман, быў гатовы вучыцца, у адрозненні ад былога савецкага старшыні Савета міністраў Мікалая Рыжкова. Той лічыў, што яго палітыка, дзякуючы якой абвалілася савецкая эканоміка, была адзіным «правільным курсам».

Прыкладна гэтак жа і ў сучаснай Беларусі хапае прагназістаў, якія вераць у правільнасць курса і ў расійскія газ і нафту, а яшчэ — у амаль дармавыя крэдыты. І ніякія лазні ім не дапамогуць. Хаця іх і не запрашаюць.

ЛЁСЫ

# ДВАНАЦЦАЦЬ АБЗАЦАЎ ЖЫЦЦЯ

Нядаўна паэт Эдуард Акулін адзначыў сваё 50-годдзе. Мы далучаемся да ўсіх віншаванняў з гэтай нагоды і прапануем успаміны Эдуарда пра сваё жыццё, запісаныя журналістам Аляксандрам Тамковічам.

Эдуард АКУЛІН

* * *

З Днём народзінаў мне пашчасціла. Нарадзіўся я акурат у адзін дзень, ці дакладней, у адну ноч з Госпадам Богам, 7 студзеня 1963 года. Праўда, не ў стайні, а ў роднай хаце, якая на той час прытуліла яшчэ адну божую істоту — маленькае цялятка. Бо ў шчодры калядны вечар ацялілася карміліца — так мая бабуля Тацціяна Канстанцінаўна Акуліна называла нашу карову Лыску.

А здарылася гэта знамянальная ў маім жыцці падзея ў вёсцы Вялікія Нямкі, што прыгожа прымасцілася на правым, крутаярым беразе Бесядзі на старажытнай Веткаўскай зямлі. Адразу ж агаваруся, што ніякага дачынення да веткаўскіх старавераў я не маю. Хрышчаны быў праваслаўным святаром, які жыў на нашай Старасельскай вуліцы і спраўляў усе хрысціянскія абрады ў сваёй хаце, бо Нямкоўскую Пакроўскую царкву, якая была збудаваная яшчэ ў 1876 годзе, спалілі ў 1917-м мясцовыя камуністы.

* * *

Памятаю сябе з тых часоў, калі любіў падпаўзці да дзеда Цімоха (мужа бабулінай сястры) і пагушкацца на ягонай назе.

А крыху пазней, ужо на другім годзе майго жыцця, узімку я падышоў да каровы Лыскі, а тая, відаць, збытаўшы мяне з сабачанём, убрыкнула задняй нагой так, што я ажыццявіў першы ў сваім жыцці міжпадворкавы пералёт. Дзякуй Богу, што зімы ў маім маленстве былі завейнаснежныя, і таму маё прызямленне аказалася даволі мяккім.

З «эратычных» згадак маленства запомнілася хаджэнне ў лазню, як у нас казалі, з «бабамі», гэта значыць, у жаночы заход. Праўда, акрамя страшэнна гарачай вады, у якой мяне заўсёды мыла, пасадзіўшы ў таз, мама і ўедлівагоркага гаспадарчага мыла, якое штораз трапляла ў вочы, я нічога больш не запоўніў.

А з двух гадоў мяне залічылі ў дарослыя, і я стаў наведваць лазню разам з мужчынамі. Дарэчы, мыццё ў лазні для нас, нямкоўцаў, — своеасаблівы рытуал, штосуботнае свята душы. Менавіта душы, а не цела. Бо, як казаў наш сусед, заядлы лазеншчык дзед Маркун: «Ото ж, душа. Яна і чарку прыгубіць любіць. Яна і шкварку прыгалубіць. А прыйдзе субота — ёй у лазню ахвота!»

* * *

Маё маленства было азмрочана дзвюма падзеямі. Спачатку, калі мне было ўсяго шэсць гадоў, развяліся мае бацькі Лявон і Марыя. Я не памыліўся, напраўду Лявон, або, як яго звалі аднавяскоўцы — Грыцаў Лёнька (Грыцавы — наша вулічная мянушка, якая захавалася ад прапрадзеда Грыца). Аляксандравічам я стаў дзякуючы памылцы сельсавецкага работніка, які ў бацькоўскім пасведчанні аб нараджэнні замест Леанід напісаў Аляксандр.

А праз паўтары гады (у 1971 годзе) бацька загінуў у дарожна-транспартным здарэнні. Яму было ўсяго трыццаць тры гады. Як потым я напісаў у адным са сваіх вершаў: «А ў трыццаць тры — паміраюць Хрысты, мой бацька памёр у столькі ж».

* * *

Яшчэ ў вайну, у пяцігадовым узросце, тата навучыўся граць на гармоніку, ды так віртуозна, што да яго на гранне вяселля станавіліся ў чаргу ўсе навакольныя вёскі. Пасля ён закончыў Веткаўскую музычную вучэльню па класе баяна і працаваў у саўгасе загадчыкам клуба і арганізатарам культурна-масавага жыцця вёскі. А як ён любіў маму! Ды яшчэ больш ён любіў музыку.

Нідзе і ніколі я не бачыў, каб так, як мой тата, яшчэ нехта іграў. Ён сядаў на канапу, заплюшчваў вочы і, паклаўшы галаў на пляча баяна, пачынаў іграць. Мог іграць так гадзіну, дзве, тры запар, быццам хацеў пачуць не проста музыку, а самую яе душу, схаваную ў грудзях баяна.

* * *

Мама была вельмі прыгожая. Яна жыла зводдаль ад вёскі, на зарэчным хутары з пасекай, і калі вечарам ішла, прапахлая мёдам, са свайго пчалінага раю на «пятачок» у Нямковічы (старажытны назоў Вялікіх Нямкоў), хлопцы між сабой перашэптваліся: «Глянь, глянь, Царыца ідзе». Але адукацыі ў Яе Вялікасці было толькі два класы. Я пытаўся ў маці пасля: «Чаму толькі два?» На што яна заўсёды адказвала: «Бабуля твая зусім чытаць не ўмела. А з мяне і двух класаў хапіла, бо некалі вучыцца было. Трэба было працаваць».

Мама ўсё жыццё прапрацавала даяркай на ферме. Працавала добра. Нават Ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга ад савецкай улады займела. Толькі не займела сямейнага шчасця ды доўгага жыццёвага веку. У пяцьдзясят гадоў мамы не стала. І, як запозненае пакаянне, напішацца верш «Авэ, Марыя», прысвечаны памяці мамы:

*Час прыйшоў за грахі вініцца.*
*Памяць паліць гады на тло.*
*Ды часцей стала мама сніцца —*
*не сама, а яе Святло.*

*Мне на гэта Святло маліцца —*
*покуль будзе мой шлях відзён.*
*— Мама, імя тваё свяціцца —*
*хай ад сёння — да скону дзён.*

*Гэта ж ты мяне нарадзіла.*
*Што змагла — то ў жыцці дала.*
*Ты і ёсць для мяне Радзіма.*
*Не прывыкну казаць — была.*



Эдзік Акулін з бацькамі. 1967 г.

* * *

Шкада, што гэты верш мама не прачытала пры жыцці. Бо ў маёй дзіцячай душы пасялілася крыўда на маці. Я лічыў, што гэта яна вінаватая ў заўчаснай смерці бацькі. І калі маці, прыехаўшы з Гомеля, дзе жыла пасля разводу, захацела забраць мяне, я катэгарычна (у свае восем гадоў) адмовіўся. Застаўся на выхаванні ў бабулі Тацціяны.

Бабуля ж выхоўвала мяне строга. Часам магла паўшчуваць не толькі словам, а і матузамі. За што я цяпер ёй бязмежна ўдзячны. Бо неадноічы мог, як у нас у Нямках кажуць, страціцца — ці то падчас вясновага крыгаходу, калі перабягаў Бесядзь па плывучым крохкім лёдзе, ці, заклаўшыся на пяць рублёў з аднакласнікам, залез на трыццаціметровы комін школьнай качагаркі.

* * *

А яшчэ бабуля навучыла шанаваць працу і людзей. Каб пракарміць Лыску, з 12 гадоў з бабуляй я хадзіў «касіць на працэнты». Гэта значыць — у найміты да саўгаса. Бо, каб атрымаць тых жа дзесяць сотак атавы на пераізміны для Лыскі, нам з бабуляй трэба было скасіць, высушыць і завезці на саўгасную ферму цэлы гектар сенакосу. Хто выкошваў за дзень хоць бы сорак сотак, той мяне зразумее. Касіў я «сяміручкай», пакідаючы за сабой метровы пракос. Стараўся — колькі мог, бо самай вялікай пахвалой для мяне тады былі словы дарослых касцоў: «Малайчына, хлапец! Добра косіць. Пад самы корань».

А яшчэ былі бульбяныя соткі, потым пагрузі на тачку гной, вывезі ў гарод, раструсі, напілуй і накалі дроў і г.д. І так дзень за днём, год за годам да самай смерці. Аплакаўшы мужа, які загінуў на фронце ў 1944-м, а потым дачку і сына, падарваўшы здароўе ў галодныя пасляваенныя гады, яна не здалела перажыць Чарнобыль. У верасні 1986 года (у сямідзесяцігадовым узросце) бабуля перанесла інсульт, які прыкаваў яе да ложка ажно на цэлых пяць гадоў.

* * *

Сваё паэтычнае прызнанне, хай сабе і ў межах роднай вёскі, я атрымаў у дванаццаць гадоў, калі газета «Зорька» надрукавала мой верш «Радзіма», напісаны па-руску. Пад вершам змясцілі хатні адрас аўтара, і цягам месяца я атрымаў больш за трыста лістоў з усіх куткоў былога СССР, а таксама з Чэхіі, Балгарыі і ГДР. Тады ж у мяне з'явілася і першая пашанотная мянушка — Паэт. Настаўнік роднай мовы і літаратуры Пятро Паўлавіч Раманаў, даведаўшыся пра гэта, аднойчы паклікаў мяне да сябе ў кабінет і прапанаваў для чытання некалькі кніг беларускіх аўтараў: Максіма Танка, Пімена Панчанку і Максіма Багдановіча.

Чамусьці вершы Максіма-кніжніка мяне ўразілі больш за ўсіх. А даведаўшыся, які жыццёвы шлях прайшоў паэт, у свае чатырнаццаць гадоў я пакляўся больш ніколі не пісаць на чужой мове. І ўжо ў 1979 годзе ў часопісе «Бярозка» надрукаваў свой першы верш на беларускай мове «Бесядзь». Я нават стаў пераможцам літаратурнага конкурсу «Я табе, Беларусь, шчыра песню пяю!», і ў якасці ўзнагароды атрымаў некалькі кніг з аўтарскімі аўтографамі. І па сёння ў хатняй бібліятэцы я захоўваю адну з іх — паэтычны зборнік Юрася Свіркі «Паўшар'е блакіту» з лаканічным подпісам: «Дарагі Эдзя, шчыра жадаю поспехаў у творчасці».

* * *

Атрымаўшы благаславенне Юрася Мікалаевіча Свіркі, я для сябе іншай дарогі ў жыцці, акрамя як у паэзію, ужо не бачыў. Нягледзячы на тое, што бабуля схіляла мяне да такой запатрабаванай на вёсцы прафесіі, як трактарыст, я цвёрда вырашыў паступаць у Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт.

Увесь 10 клас я пражыў на аблоках першага кахання, надкусіўшы грахоўны яблык першага пацалунку і перажыўшы трагедыю першай у жыцці здрады.

Разрыў з каханай адбыўся проста на выпускным балі. Таму тым жа ранкам, нават не паспаўшы, я першым рэйсам аўтобуса накіраваўся ў Гомель, каб здаць дакументы для паступлення на гісторыка-філалагічны факультэт.

* * *

Студэнцкія гады — гэта жыццё ў жыцці. Яго нельга пераказаць у адным абзацы. Таму заштрыхую толькі самыя важныя эпізоды. Яшчэ на падрыхтоўчых курсах я пазнаёміўся з Алесем Бяляцкім, ці, як мы яго любоўна тады называлі, — Белым. Алесь стаў самым блізкім маім сябрам. Сябрам — на ўсё астатняе жыццё.

Пазней, у першы ж дзень заняткаў, да нас, першакурснікаў, проста пасярод пары ў аўдыторыю прасунуў галаву Анатоль Сыс і, не звяртаючы ўвагі на лектара, гучна запытаўся: «Паэты ёсць?» — «Ёсць!» — не стрымаўся самы тэмпераментны і шабутны сярод нас, Анатолеў зямляк і цёзка, Сяржук Сыс. «Праў-да-а?» — у расцяжку з іранічнай інтанацыяй выгукнуў Анатоль. На што ўся аўдыторыя, пераважна дзявочая, узарвалася нястрымным маладым смехам. А Толя, як сапраўдны артыст, вытрымаўшы паўзу, сказаў: «Ну, тады прыходзьце сёння на пасяджэнне «Крынічкі».

Так Анатоль Сыс увайшоў у маё жыццё, каб застацца там назаўсёды. Ён стаў нашым літаратурным кумірам, а да мяне, даведаўшыся аб тым, што я бязбацькавіч, наогул ставіўся як да сына.

* * *

Памятаю, як на адным з пасяджэнняў «Крынічкі», якую вёў Віктар Ярац, я прачытаў верш з радком «Сонца ў хмары язём нырае». Адразу пасля пасяджэння Анатоль папрасіў падарыць яму гэты радок. «Я з яго верш добры напішу, а ў цябе ён проста прападзе». Я пашкадаваў радка. А цяпер шкадую, што пашкадаваў. Бо ў мяне гэты радок сапраўды прапаў.

Памятаю таксама, як напісаў сваю першую песню зімой 1980 года. Яна так і называлася «Памятаю, як ты». Яе прылюдна раскрытыкаваў, пачуўшы ў адной з перадач Гомельскага тэлебачання, Сяргей Дубавец. І я, з душой чыстай, даў сабе зарок больш ніколі яе не выконваць.

Але прайшло 33 гады — я скінуў з сябе зарок і свой новы кампакт-дыск пад назовам «Не магу жыць без крыл» пачаў з гэтай песні. Бо менавіта яна калісьці якраз і падарыла мне гэтыя крылы.

Божа! Якімі маладымі, якімі апантанымі і няўрымслівымі мы былі. Як акрылена жылі і тварылі для Беларусі. Ці гэта быў першы на Беларусі рок-гурт «Баскі» (заснаваны ў 1981 годзе), ці гэта былі археалагічныя раскопкі ў Мірскім замку, дзе мы працавалі разам з Алесем Бяляцкім, ці вандроўкі ў Нясвіж, Наваградак, Ішкальдзь, Вішнева ў пошуках, як нам тады здавалася, страчанай гістарычнай спадчыны, а, насамрэч, у пошуках саміх сябе.

* * *

А потым была вучоба ў аспірантуры НАН Беларусі. Уваход у аб'яднанне «Тутэйшыя». Пераезд у 1990 годзе ў Мінск. Праца ў «Беларускай хатцы» цягам 11 гадоў. Прыём у 1992 годзе ў сябры СБП з рэкамендацый Анатоля Грачанікава і Раісы Баравіковай. Праца ў часопісах «Перашацвет» і «Полымя». Зыход у «дзеясло ўную» невядомасць. Пасада намесніка старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў.

У 1991 годзе, называючы свайго другога сына імем Верас, я і падумаць не мог, што праз васямнаццаць гадоў у мяне з'явіцца трэцяе дзіця — часопіс «Верасень», які вярнуў у маю душу веру ў людзей і непахісную веру ў «залацістых ясны дзень» для роднай Беларусі.

# TV ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## 14 студзеня, панядзелак

### 1 Беларусь

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.45** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.00** Клуб рэдактараў.
**10.45** Вакол планеты.
**11.30** Журналісцкае расследаванне.
**12.10** Мюзікл «Новыя прыгоды Аладзіна» (Расія).
**13.55** Навагодні канцэрт з ВІА «Сіняя птушка».
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**16.30** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**17.35** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.30** Камандзіроўка.
**18.45, 23.35** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.45** Калыханка.
**19.55** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Форум.
**22.40** Дэтэктыўны серыял «Бігль» (Расія).
**00.00** Дзень спорту.
**00.15** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера. «Добрага здароўейка!».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Прэм'ера. «Ты не адзін».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**18.55** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсер. фільм «Метад Фрэйда».
**23.05** Трылер «Ва ўзгорках ёсць вочы».
**01.05** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**10.10** «Жыць будзеце».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** Канцэрт М.Задорнава.
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Бясстрашны». ЗША-Ганконг-Кітай, 2006 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».
**00.35** «Антыкілер 2». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.05** Навіны надвор'я.
**10.45** Дакументальна-пазнавальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША - Паўднёвая Карэя).
**11.45** Школа рамонту.
**12.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**13.30** Меладрама «Снежны чалавек» (Расія).
**15.30** Прэм'ера. Дэтэктыў «Непрыдуманае забойства» (Расія). 1-я серыя.
**16.45** Беларуская часіна.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**19.55** Гандбол. Чэмпіянат свету. Мужчыны. Беларусь - Сербія. Прамая трансляцыя.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** Авертайм.
**22.10** Дэтэктыў «Непрыдуманае забойства» (Расія). 1-я серыя.
**23.15** Меладрама «Снежны чалавек» (Расія).

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Шукальнікі».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аб'ект 11».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Шукальнікі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Заўсёды кажы «заўсёды»-6».
**22.15** Тэлесерыял «Вераніка. Страчанае шчасце».
**00.00** Навіны - Беларусь.
**00.10** «Аперацыя «Эдэльвейс». Апошняя таямніца».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.20** Серыял «Муж і жонка».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Дэтэктыўны серыял «Павуціннне».
**21.20** Серыял «Абарона Красіна».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Вострасюжэтны серыял «Рускі дубль».

### Eurosport

**06.00, 20.30, 02.30** Тэніс. Адкрыты Чэмпіянат Аўстраліі. Дзень 1.
**17.30, 22.45, 23.00** Снукер. Мастэрс. Лондан Дзень 2.
**20.00** Футбол. Часопіс.
**21.30, 03.30** Тэніс. Гейм, Сэт, Матс. Часопіс.
**22.00, 02.00** Ралі-рэйд Дакар. 9-ы этап.
**22.30** Вось дык так!!!
**02.25** Адкрыты чэмпіянат Аўстраліі па тэнісе. Часопіс.
**04.00** Тэніс. Адкрыты Чэмпіянат Аўстраліі. Дзень 2.

### Белсат tv Belsat

**07.00** ПраСвет.
**07.25** Зона «Свабоды».
**07.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.20** Два на два (тэледыскусія).
**08.45** Дакументальная гадзіна: «Зомбі. Цёмны бок імперыі», дак. фільм, 1999 г., Польшча–Германія.
**09.30** Euromaxx.
**10.00** Форум (ток-шоў).
**10.45** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Таямніца бункера Гітлера».
**11.35** «Вяртанне», драма, 2005 г., Польшча.
**13.20** Эксперт.
**13.55** Невядомая Беларусь: «Шанц на «Новае жыццё», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**14.25** ПраСвет.
**14.50** Зона «Свабоды».
**15.25** Два на два (тэледыскусія).
**15.50** Форум (ток-шоў).
**16.35** Дакументальная гадзіна: «Зомбі. Цёмны бок імперыі», дак. фільм, 1999 г., Польшча–Германія.
**17.25** Назад у будучыню.
**17.35** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 13.
**18.05** Еўропа сёння.
**18.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Цюхця, што ты за стварэнне?!».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.40** Асабісты капітал.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.45** «Вяртанне», драма, 2005 г., Польшча.
**23.30** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**23.40** Студыя «Белсат».
**01.25** Асабісты капітал.
**01.10** Аб'ектыў.
**02.05** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.20** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 15 студзеня, аўторак

### 1 Беларусь

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.15** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія-Украіна).
**10.20** Камандзіроўка.
**10.30** Таямніцы следства.
**11.00** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**11.35** Зямельнае пытанне.
**12.10** Тэлефільм цыклу «Зямля беларуская».
**12.25** Дакументальны серыял «Будзь у тонусе!» (Аўстралія).
**13.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**14.00** Дэтэктыўны серыял «Бігль» (Расія).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дакументальны серыял «Магія прыроды» (Чэхія-Вялікабрытанія).
**16.20** Медычныя таямніцы.
**16.45** Дакументальны серыял «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**17.35** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Украіна).
**18.25** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 22.55** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.45** Калыханка.
**19.55** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Бігль» (Расія).
**23.20** Дзень спорту.
**23.35** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера. «Добрага здароўейка!».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Прэм'ера. «Ты не адзін».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсер. фільм «Метад Фрэйда».
**23.05** Прэм'ера. «Задзіракі».
**00.10** «Былыя жонкі».
**01.05** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Вялікі сняданак».
**09.40** «Такі лёс».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Фільм «Бобі». ЗША, 2006 г.
**16.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Чалавек-аркестр». Францыя.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жывая тэма».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Антыкілер 2». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**11.00** Авертайм.
**11.35** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**12.30** Камедыйная меладрама «Есці пададзена!» (Расія - Украіна).
**14.15** Дэтэктыў «Непрыдуманае забойства» (Расія). 2-я серыя.
**15.30** Беларуская часіна.
**16.40** Рэгіянальная праграма.
**17.40** Гандбол. Чэмпіянат свету. Мужчыны. Паўднёвая Карэя - Беларусь. Прамая трансляцыя.
**19.20** Музычная рэтра-камедыя «Мы з джазу» (СССР).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Дэтэктыў «Непрыдуманае забойства» (Расія). 2-я серыя.
**22.35** Камедыйная меладрама «Есці пададзена!» (Расія - Украіна).

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аб'ект 11».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Катоўскі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Серыял «Заўсёды кажы «заўсёды»-7».
**22.15** Тэлесерыял «Вераніка. Страчанае шчасце».
**00.05** Навіны - Беларусь.
**00.15** «Дзяжурны па краіне».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.05** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Дэтэктыўны серыял «Павуціннне».
**21.20** Серыял «Абарона Красіна».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Вострасюжэтны серыял «Рускі дубль».

### Eurosport

**06.00, 20.00, 22.00, 02.45** Тэніс. Адкрыты Чэмпіянат Аўстраліі. Дзень 2.
**17.30, 23.00, 00.30** Снукер. Мастэрс. Лондан Дзень 3.
**20.30** Горныя лыжы. Кубак свету. Слалам. Жанчыны. 1-ы спуск.
**21.30, 02.15** Ралі-рэйд Дакар. 10-ы этап.
**22.30, 03.30** Тэніс. Гейм, Сэт, Матс. Часопіс.
**00.00** Горныя лыжы. Кубак свету. Слалам. Жанчыны. 2-і спуск.
**02.00** Аўтаспорт. Акадэмія GT. Дарога ў Дубаі. Часопіс.
**04.00** Тэніс. Адкрыты Чэмпіянат Аўстраліі. Дзень 3.

### Белсат tv Belsat

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.40** Асабісты капітал.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** Еўропа сёння.
**10.10** «Happy New York», маст. фільм, 1997 г., Польшча.
**11.45** Навігатар.
**12.05** Студыя «Белсат».
**13.45** Асабісты капітал.
**14.00** Аб'ектыў.
**14.30** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.45** Еўропа сёння.
**15.15** «Happy New York», маст. фільм, 1997 г., Польшча.
**16.50** «Афіцэры», серыял: 2 серыя.
**17.35** Эксперт.
**18.05** На колах.
**18.30** Без рэтушы: «Простыя справы», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.30** Чорным па белым.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.30** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.45** «Доктар Марцін», серыял: 2 серыя.
**22.30** Назад у будучыню.
**22.45** Форум (ток-шоў).
**23.30** Студыя «Белсат».
**01.00** Чорным па белым.
**01.30** Аб'ектыў.
**01.55** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.10** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 16 студзеня, серада

### 1 Беларусь

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.30** Патрабуецца.
**10.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**11.00** Канцэртная праграма.
**12.10** Тэлефільм цыклу «Зямля беларуская».
**12.25** Дакументальны серыял «Цуды прыроды» (Германія).
**13.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**14.00** Дэтэктыўны серыял «Бігль» (Расія).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дакументальны серыял «Магія прыроды» (Чэхія-Вялікабрытанія).
**16.30** Каробка перадач.
**17.00** Заўтра - гэта мы!
**17.30** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**18.25** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 22.55** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.45** Калыханка.
**19.55** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Бігль» (Расія).
**23.20** Дзень спорту.
**23.35** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).

### АНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера. «Добрага здароўейка!».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Прэм'ера. «Ты не адзін».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсер. фільм «Анёл у сэрца».
**23.05** Фільм «Марскі пяхотнік».
**00.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Гадзіна суду».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** Фільм «Чалавек-аркестр». Францыя, 1970 г.
**15.30** «Жывая тэма».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мінשчына».
**17.30** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Лос-Анджэлеская гісторыя». ЗША, 1991 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».
**00.15** «Антыкілер 2». Серыял.

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.05** Наперад у мінулае.
**10.45** Дакументальна-пазнавальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША - Паўднёвая Карэя).
**11.40** Музычная рэтра-камедыя «Мы з джазу» (СССР).
**13.35** Лірычная камедыя «У двух кіламетрах ад Новага года» (Украіна- Расія).
**15.30** Дэтэктыў «Непрыдуманае забойства» (Расія). 3-я серыя.
**16.40** Беларуская часіна.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Камедыйная меладрама «Трамвай у Парыж». 1-я і 2-я серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Дэтэктыў «Непрыдуманае забойства» (Расія). 3-я серыя.
**22.40** Лірычная камедыя «У двух кіламетрах ад Новага года» (Украіна-Расія).

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аб'ект 11».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Катоўскі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Заўсёды кажы «заўсёды»-7».
**22.15** Тэлесерыял «Вераніка. Страчанае шчасце».
**00.10** Навіны - Беларусь.
**00.20** «Гістарычныя хронікі».

### НТВ

**06.00** Прафілактыка.
**10.00, 13.00** Сёння.
**10.20** «Развод па-руску».
**11.10** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.15** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Дэтэктыўны серыял «Павуціння».
**21.20** Серыял «Абарона Красіна».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Серыял «Рускі дубль».

### Eurosport

**06.00, 20.45, 02.30** Тэніс. Адкрыты Чэмпіянат Аўстраліі. Дзень 3.
**17.30, 23.00** Снукер. Мастэрс. Лондан Дзень 4.
**20.30** Аўтаспорт. Акадэмія GT. Дарога ў Дубаі. Часопіс.
**22.00, 03.30** Тэніс. Гейм, Сэт, Матс. Часопіс.
**22.30** Алімпійскі часопіс.
**02.00** Ралі-рэйд Дакар. 11-ы этап.
**02.25** Адкрыты чэмпіянат Аўстраліі па тэнісе. Часопіс.
**04.00** Тэніс. Адкрыты Чэмпіянат Аўстраліі. Дзень 4.

### Белсат tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Чорным па белым.
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** На колах.
**10.10** «Доктар Марцін», серыял: 2 серыя.
**10.55** «Дажыліся!», сатырычны міні-серыял.
**11.05** Форум (ток-шоў).
**11.50** Студыя «Белсат».
**13.20** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**13.50** Аб'ектыў.
**14.15** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.40** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.10** «Доктар Марцін», серыял: 2 серыя.
**15.55** «Дажыліся!», сатырычны міні-серыял.
**16.05** Форум (ток-шоў).
**16.50** «Афіцэры», дэтэктыўны серыял: 3 серыя.
**17.35** Асабісты капітал.
**17.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**18.00** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.30** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Экспедыцыя прафесара Губкі».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.45** «Польская кухня», серыял: 2 серыя.
**22.45** Два на два (тэледыскусія).
**23.10** Невядомая Беларусь: «Шанц на «Новае жыццё», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**23.40** Студыя «Белсат».
**01.15** Маю права (юрыдычная праграма).
**01.40** Аб'ектыў.
**02.05** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.20** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 17 студзеня, чацвер

### 1 Беларусь

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія-Украіна).
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.30** Патрабуецца.
**10.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**11.00** Канцэртная праграма.
**12.10** Тэлефільм АТН цыклу «Зямля беларуская».
**12.25** Культурныя людзі +.
**13.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**13.55** Дэтэктыўны серыял «Бігль» (Расія).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дакументальны серыял «Магія прыроды» (Чэхія-Вялікабрытанія).
**16.50** Перазагрузка.
**17.30** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.25** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 22.55** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.45** Калыханка.
**19.55** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Бігль» (Расія).
**23.20** Дзень спорту.
**23.35** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).

### АНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера. «Добрага здароўейка!».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Прэм'ера. «Ты не адзін».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Анёл у сэрца».
**23.05** Камедыя «Далей ад цябе».
**01.15** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Не хлусі мне!».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Лос-Анджэлеская гісторыя». ЗША, 1991 г.
**15.35** «Якія людзі!».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Русалка». Расія, 2007 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Антыкілер 2». Серыял. Заключная серыя.

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.05** Вышэй за дах.
**10.45** Камедыйная меладрама «Трамвай у Парыж» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**12.55** Дэтэктыў «Непрыдуманае забойства» (Расія). 4-я серыя, заключная.
**14.10** Беларуская часіна.
**15.20** Рэгіянальная праграма.
**16.20** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**17.40** Гандбол. Чэмпіянат свету. Мужчыны. Славенія - Беларусь. Прамая трансляцыя.
**19.20** Хакей. КХЛ.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Дэтэктыў «Непрыдуманае забойства» (Расія). 4-я серыя, заключная.
**22.40** Драма «Любоўная ліхаманка» (ЗША).

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «ХА». Маленькія камеды.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аб'ект 11».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Катоўскі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Заўсёды кажы «заўсёды»-7».
**22.15** Тэлесерыял «Вераніка. Страчанае шчасце».
**00.05** Навіны - Беларусь.
**00.15** «Гістарычныя хронікі».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Следства вялі.».
**11.10** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.25** Дэтэктыўны серыял «Павуціння».
**21.20** Серыял «Абарона Красіна».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Вострасюжэтны серыял «Рускі дубль».

### Eurosport

**06.00, 20.00** Тэніс. Адкрыты Чэмпіянат Аўстраліі. Дзень 4.
**17.30** Біятлон. Кубак свету. Антхольц. Спрынт. Жанчыны.
**18.45, 23.00** Снукер. Мастэрс. Лондан. 1/4 фіналу.
**22.00, 03.30** Тэніс. Гейм, Сэт, Матс. Часопіс.
**22.30, 03.00** Ралі-рэйд Дакар. 12-ы этап.
**02.00** Покер. Еўрапейскі тур.
**04.00** Тэніс. Адкрыты Чэмпіянат Аўстраліі. Дзень 5.

### Белсат tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.35** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.05** «Польская кухня», серыял: 2 серыя.
**11.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**11.20** Невядомая Беларусь: «Шанц на «Новае жыццё», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**11.50** Студыя «Белсат».
**13.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**13.50** Аб'ектыў.
**14.15** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.30** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.00** «Польская кухня», серыял: 2 серыя.
**16.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**16.10** Невядомая Беларусь: «Шанц на «Новае жыццё», дак. фільм, 2009 г., Польшча.
**16.40** «Час гонару», серыял: 3 серыя.
**17.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**18.00** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Аблавушак».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял: 3 серыя.
**22.30** «Рэвалюцыя на сцэне», дак. фільм, 2010 г., Вялікабрытанія.
**23.00** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**23.25** Студыя «Белсат».
**00.55** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01.20** Аб'ектыў.
**01.50** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.05** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 18 студзеня, пятніца

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.30** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.25** Патрабуецца.
**10.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**10.55** Канцэртная праграма.
**12.15** Тэлефільм АТН цыклу «Зямля беларуская».
**12.30** Заўтра - гэта мы!
**13.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).
**14.00** Дэтэктыўны серыял «Бігль» (Расія).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дакументальны серыял «Магія прыроды» (Чэхія-Вялікабрытанія).
**16.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.35** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.25, 00.05** Зона Х. Вынікі тыдня.
**19.45** Калыханка.
**19.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Нашы.
**21.55** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**23.00** Серыял «Майстры жахаў».
**00.45** Дзень спорту.

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера. «Добрага здаровейка!».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Прэм'ера. «Ты не адзін».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дзве зоркі». Вялікі навагодні канцэрт.
**23.05** Прыгодніцкі фільм «Пляж».
**01.15** Начныя навіны.

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Каханне 911».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Русалка». Расія, 2007 г.
**15.40** «Хороша жыць».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**18.30** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Толькі пасля вас!». Францыя.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Адмысловы праект».
**00.30** Фільм «Доказ смерці». ЗША, 2007 г.

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** «Жыццё і смерць двараніна Чартапханава». 1-я і 2-я серыі.
**12.45** Дакументальна-пазнавальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША - Паўднёвая Карэя).
**13.40** Авантурная камедыя «Дэжа вю» (СССР-Польшча).
**15.45** Беларуская кухня.
**16.20** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**19.30** Арэна.
**20.00** Фактар сілы.
**20.30** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Авантурная камедыя «Дэжа вю» (СССР-Польшча).
**23.25** Дэтэктыў «Падвойная ракіроўка-2» (Ганконг).

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аб'ект 11».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Катоўскі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Заўсёды кажы «заўсёды»-7».
**22.15** Тэлесерыял «Вераніка. Страчанае шчасце».
**00.10** Навіны - Беларусь.
**00.20** «Гістарычныя хронікі».
**01.05** Фільм «Неідэальная жанчына» (2008).

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «І зноў добры дзень!».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.30** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** Серыял «Муж і жонка».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.25** Дэтэктыўны серыял «Павуцінне».
**23.00** Мастацкі фільм «Шпількі-3».
**00.40** Вострасюжэтны серыял «Рускі дубль».

**06.00, 19.45, 02.45** Тэніс. Адкрыты Чэмпіянат Аўстраліі. Дзень 5.
**17.30** Біятлон. Кубак свету. Антхольц. Спрынт. Мужчыны.
**18.45** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. HS 134. Кваліфікацыя.
**21.15, 03.30** Тэніс. Гейм, Сэт, Матс. Часопіс.
**21.45, 02.00** Ралі-рэйд Дакар. 13-ы этап.
**22.15** Снукер. Мастэрс. Лондан. 1/4 фіналу.
**23.00** Снукер. Мастэрс. Лондан. 1/2 фіналу.
**02.30** Аўтаспорт. Акадэмія GT. Дарога ў Дубаі. Часопіс.
**04.00** Тэніс. Адкрыты Чэмпіянат Аўстраліі. Дзень 6.

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.05** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял: 3 серыя.
**10.50** Без рэтушы: «Простыя справы», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**11.05** «Рэвалюцыя на сцэне», дак. фільм, 2010 г., Вялікабрытанія.
**11.35** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 13.
**12.00** Студыя «Белсат».
**13.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**14.00** Аб'ектыў.
**14.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.10** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял: 3 серыя.
**15.55** «Рэвалюцыя на сцэне», дак. фільм, 2010 г., Вялікабрытанія.
**16.25** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 13.
**16.50** «Час гонару», серыял: 4 серыя.
**17.40** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**18.05** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.35** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.45** «Аповеды выходнага дня», цыкл маст. фільмаў, 1996–2000 гг., Польшча: «Прыцягальнасць распусты», 1996 г.
**22.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**23.15** Студыя «Белсат».
**00.45** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01.10** Аб'ектыў.
**01.40** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**01.55** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 19 студзеня, субота

**07.15** Існасць.
**07.40** Слова Мітрапаліта Філарэта.
**07.50** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Здароўе.
**10.00** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**11.05** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**11.35** Зямельнае пытанне.
**12.10** Тэлефільм АТН цыклу «Зямля беларуская».
**12.25** Лірычная камедыя «Радня» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.35** Дакументальны серыял «Магія прыроды» (Чэхія-Вялікабрытанія).
**16.05** Меладрама «Інсайт» («Беларусьфільм»).
**17.50** Дакументальны серыял «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.10** Камедыйны дэтэктыў «Кідалы» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Прэм'ера. Гістарычны фільм «Арол дзевятага легіёна» (ЗША).
**23.35** Дзень спорту.
**23.45** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне « (Расія).
**00.35** Перазагрузка.

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.25** «Здароўе».
**10.30** «Смак».
**11.10** «Разумніцы і разумнікі».
**11.55** Камедыя «Несусветная мітусня».
**13.35** Прэм'ера. «Яўген Веснік. Жывіце нарасхрыст».
**14.35** «Абракадабра».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Абракадабра». Працяг.
**17.00** Фільм «…У стылі Jazz».
**18.45** «Хвіліна славы». Залатыя старонкі. Частка 2-я.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: Канцэрт удзельнікаў праекта «Я спяваю».
**23.25** Фільм «Апошні кароль Шатландыі».
**01.25** Дэтэктыў «Ніагара».

**06.20** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**08.00** Фільм «Толькі пасля вас!». Францыя, 2003 г.
**09.55** «Жыць будзеце».
**10.15** «Чыстая праца».
**11.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.05** «Прыгоды дылетанта».
**13.40** Фільм «Па сямейных абставінах». СССР, 1977 г. 1-я серыя.
**15.00** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** Фільм «Бомж». Украіна, 2006 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «P.S. Я кахаю цябе». ЗША, 2007 г.
**22.25** «Дзіўная справа».
**23.20** Фільм «Наталі». Францыя-Іспанія, 2003 г.
**01.10** «Глядзець усім!».

**08.00** Дабравест.
**08.30** Дзіцячы фільм-казка «Руды, сумленны, закаханы». 1-я серыя.
**09.45** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**10.50** Тэлебарометр.
**10.55** Пазакласная гадзіна.
**11.15** Альбарутэнія.
**11.50** Наперад у мінулае.
**12.25** Пад грыфам «Вядомыя».
**13.00** Беларуская кухня.
**13.35** Біятлон. Кубак свету. Гонка пераследу. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**14.20** Музычная камедыя «Зімовы вечар у Гаграх» (СССР).
**16.05** Парушаючы запаведзі.
**16.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**19.15** Ваша лато.
**20.00** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.10** Біятлон. Кубак свету. Гонка пераследу. Мужчыны.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** «Імперыя песні». Музычна-забаўляльнае караоке-шоў.
**22.15** Гандбол. Чэмпіянат свету. Мужчыны. Саудаўская Аравія - Беларусь.
**23.45** Музычная камедыя «Зімовы вечар у Гаграх» (СССР).

**07.00** Фільм «Неідэальная жанчына» (2008).
**08.45** Фільм «Дзевяць прыкмет здрады» (2008 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.10** «Суботнік».
**11.50** Мультфільмы.
**12.15** Фільм «Белы Бім Чорнае вуха» (1976 г.). 1-я серыя.
**14.00** Весткі.
**14.15** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**14.50** «Лекары. Адплата за невуцтва».
**15.45** «Акцёрская рулетка».
**16.40** Тэлесерыял «Сваты».
**18.05** «Суботні вечар».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.40** Фільм «Калі б я была Царыцай» (2012).
**00.00** Фільм «Альпініст» (2008 г.).

**06.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00** Сёння.
**08.20** Агляд.
**08.50** «Гатуем».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.55** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** Дэтэктыўны серыял «Версія».
**15.10** «Масквічы».
**16.00** Сёння.
**16.20** «Следства вялі.».
**17.10** «Вочная стаўка».
**18.00** Выратавальнікі.
**18.30** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** Сёння.
**19.30** Вострасюжэтны серыял «Адысея шпіка Гурава».
**22.55** Баявік «Антыснайпер».
**00.35** Бенефіс Ірыны Панароўскай.

**06.00** Тэніс. Адкрыты Чэмпіянат Аўстраліі. Дзень 6.
**17.30** Біятлон. Кубак свету. Антхольц. Гонка пераследу. Жанчыны.
**18.15** Біятлон. Кубак свету. Антхольц. Гонка пераследу. Мужчыны.
**19.00** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. HS 134.
**19.45** Футбол. Кубак Афрыкі. Групавы этап.
**22.00, 03.30** Тэніс. Гейм, Сэт, Матс. Часопіс.
**22.30** Футбол. Кубак Афрыкі. Групавы этап. Ангола - Марока.
**01.00, 02.00** Снукер. Мастэрс. Лондан. 1/2 фіналу.
**03.00** Ралі-рэйд Дакар. 14-ы этап.
**04.00** Тэніс. Адкрыты Чэмпіянат Аўстраліі. Дзень 7.

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.05** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.55** Форум (ток-шоу).
**11.40** Казкі для дзетак: «Цюхця, што ты за стварэнне?!», «Фільм са страшнаю назваю», «Экспедыцыя прафесара Губкі».
**12.05** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял: 3 серыя.
**12.50** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: канцэрт гурта «Svet Boogie Band».
**13.05** «Час гонару», серыял: 2 серыя.
**13.55** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Таямніца бункера Гітлера».
**14.45** Без рэтушы: «Простыя справы», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**14.55** «Рэвалюцыя на сцэне», дак. фільм, 2010 г., Вялікабрытанія.
**15.25** Два на два (тэледыскусія).
**15.55** «Аповеды выходнага дня», цыкл маст. фільмаў, 1996–2000 гг., Польшча: «Прыцягальнасць распусты», 1996 г.
**16.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**17.05** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.20** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**17.30** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 3 серыя.
**18.00** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.25** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды і паходы».
**19.05** «Прафесія «кат»», дак. фільм, 2001 г., Францыя.
**20.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**20.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 14.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Невядомая Беларусь: «Чарга. Гісторыя пытання ці пытанне гісторыі?», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**21.55** «Дажыліся!», сатырычны міні-серыял.
**22.05** Суботні сеанс: «Girl guide», маст. фільм, 1995 г., Польшча.
**23.40** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**00.05** Аб'ектыў.
**00.20** Жаўтуха (сатырычная праграма).

## 20 студзеня, нядзеля

### Беларусь 1

**06.30** Лірычная камедыя «Радня» (СССР).
**08.05** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**08.35** Медычныя таямніцы.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Нашы.
**09.50** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне « (Расія).
**11.00** Таямніцы следства.
**11.30** Зона Х. Вынікі тыдня.
**12.10** Заўтра - гэта мы!
**12.40** Культурныя людзі +.
**13.15** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дакументальны серыял «Магія прыроды» (Чэхія-Вялікабрытанія).
**16.00** Камедыйны баявік «Карсіканец» (Францыя).
**17.45** Каробка перадач.
**18.15** «Месца сустрэчы». Музычна-забаўляльная праграма.
**19.10** Камедыйны дэтэктыў «Кідалы ў бягах» (Расія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Меладрама «Мае чарнічныя ночы» (Ганконг-Францыя).
**00.10** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.50** «Фазэнда».
**11.35** Камедыя «Неверагодныя прыгоды Італьянцаў у Расіі».
**13.35** Камедыя «Па сямейных абставінах».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм’ера. Асяроддзе пасялення.
**17.10** Прэм’ера. Лірычная камедыя «Аддам кацянят у добрыя рукі».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** Вострасюжэтны фільм «Каманда-А».
**23.20** Прэм’ера. «30 гадоў. Пачатак». Юбілейны канцэрт.
**00.50** Трылер «Тэлефонная будка».

### СТВ

**06.05** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**07.50** Фільм «P.S. Я кахаю цябе». ЗША, 2007 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Жыць будзеце».
**10.50** «Вялікі сняданак».
**11.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**12.25** «Добры дзень, доктар».
**13.00** Фільм «Па сямейных абставінах». СССР, 1977 г. 2-я серыя.
**14.20** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** Фільм «Стацкі дараднік». Расія, 2005 г.
**23.05** «Цуды запаветныя».
**23.55** Фільм «Татуяванне ў выглядзе матылька». Нідэрланды, 2009 г.

### Беларусь 2

**07.25** Таямніца душы.
**07.50** Дзіцячы фільм-казка «Руды, сумленны, закаханы». 2-я серыя.
**09.05** Камедыйны серыял «Светлафор».
**10.15** Тэлебарометр.
**10.20** Пазакласная гадзіна.
**10.40** Альбарутэнія.
**11.15** Школа рамонту.
**12.20** Біятлон. Кубак свету. Эстафета. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**13.50** Пра мастацтва.
**14.15** Вышэй за дах.
**15.20** Фактар сілы.
**16.05** Біятлон. Кубак свету. Эстафета. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**17.50** Кінаканцэрт.
**18.50** Суперлато.
**19.40** Спорт-кадр.
**20.25** Навіны надвор’я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Камедыя «Неваляшка» (Расія).
**22.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм’ер-ліга. Чэлсі - Арсенал.
**00.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм’ер-ліга. Тотэнхэм - Манчэстар Юнайтэд.

### Россия

**07.00** Фільм «Калі б я была Царыцай.» (2012 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** Фільм «Белы Бім Чорнае вуха» (1976 г.). 2-я серыя.
**14.00** Весткі.
**14.15** «Уся Расія».
**14.30** «Чорныя дзюры. Белыя плямы».
**15.15** «Пад знакам Ільва. Леў Мікалаеў».
**16.10** «Гарадок». Дайджэст.
**17.00** Тэлесерыял «Сваты».
**18.25** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** Фільм «Прымета на шчасце» (2012 г.).
**23.25** Кубак чэмпіёнаў МС КВЗ.

### НТВ

**06.35** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.30** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Паедзем, паямо!».
**12.35** «Цуд тэхнікі».
**13.00** Сёння.
**13.20** Дэтэктыўны серыял «Версія».
**15.00** «Таямнічая Расія».
**16.00** Сёння.
**16.20** Вострасюжэтны серыял «Грамадзянка начальніца. Працяг».
**18.05** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**20.00** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**20.50** «Юля Абдулава. Мая споведзь».
**21.45** «Ты не паверыш!».
**22.45** «Рэакцыя Васэрмана».
**23.15** Баявік «Антыснайпер. Падвойная Матывацыя».
**00.50** «Прамень Святла».
**01.20** «Школа зласлоўя». Ток-шоў.

### Eurosport

**06.00** Тэніс. Адкрыты Чэмпіянат Аўстраліі. Дзень 7.
**17.30** Біятлон. Кубак свету. Антхольц. Эстафета. Мужчыны.
**18.45** Футбол. Кубак Афрыкі. Групавы этап. Гана - Дэмакратычная Рэспубліка Конга.
**21.00, 03.30** Тэніс. Гейм, Сэт, Матс. Часопіс.
**21.30** Футбол. Кубак Афрыкі. Групавы этап. Малі - Нігер.
**00.00** Снукер. Мастэрс. Лондан. Фінал.
**03.00** Ралі-рэйд Дакар. 15-ы этап.
**04.00** Тэніс. Адкрыты Чэмпіянат Аўстраліі. Дзень 8.

### Белсат tv / Belsat

**07.00** Аб’ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Прыгоды і паходы».
**07.45** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 3 серыя.
**08.10** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**08.25** Зона «Свабоды».
**08.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.20** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 14.
**09.50** Рэпартэр.
**10.15** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**10.40** Асабісты капітал.
**10.55** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**11.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**11.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.40** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Прыгоды і паходы».
**12.15** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 3 серыя.
**12.40** «Час гонару», серыял: 3 серыя.
**13.30** «Польская кухня», серыял: 2 серыя.
**14.30** «Прафесія «кат»», дак. фільм, 2001 г., Францыя.
**15.25** Назад у будучыню.
**15.35** МакраФон: XIV Фестываль песеннай паэзіі і аўтарскай песні «Бардаўская восень–2007»: выступ Касі Камоцкай.
**16.10** «Girl guide», маст. фільм, 1995 г., Польшча.
**17.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.15** Невядомая Беларусь: «Чарга. Гісторыя пытання ці пытанне гісторыі?», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Польскія казкі і паданні».
**19.05** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Сакрэт берлінскага бункера».
**20.10** «Горад жанчын», дак. фільм, 1999 г., Польшча–Германія.
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт.
**21.55** Форум (ток-шоу).
**22.40** Фільматэка майстроў: «Час паміраць», маст. фільм, 2007 г., Польшча–Германія.
**00.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**00.55** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 14.
**01.20** «Дажыліся!», сатырычны міні-серыял.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Гомель: (8 029) 697 82 75 Аляксандр;
Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8029) 364 42 60 Зінаіда.

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 _____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Кассир

Пеня ________
Всего ________

КУЛЬТ АСОБЫ

# КІМ ЧЭН ЫН ВУЧЫЦЦА РАБІЦЬ ЦУДЫ

**Адным з вынікаў першага года знаходжання пры ўладзе новага паўночнакарэйскага лідара Кім Чэн Ына стала фармаванне ягонага культу асобы. Пра гэта журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з сябрам таварыства «КНДР—Украіна» Сяргеем Палішчуком.**



AFP

***— 8 студзеня ў КНДР адсвяткавалі дзень нараджэння Кім Чэн Ына, якому споўнілася 28 гадоў (па іншых звестках — 29). Галоўным мерапрыемствам у рамках святкавання стала шматтысячная публічная клятва новаму лідару. У двух словах, што значыць для рэжыму КНДР культ асобы прадстаўнікоў дынастыі Кімаў?***

— Не пабаюся назваць гэта стрыжнем усёй сістэмы. Вывучэнне біяграфіі правадыроў пачынаецца яшчэ ў дзіцячых садках, дзе для гэтага існуюць спецыяльныя пакоі. Увесь працэс пачатковай адукацыі пабудаваны на прыкладах з асабістага жыцця прадстаўнікоў сямейства Кімаў. Напрыклад, на ўроках матэматыкі прапануецца падзяліць яблыкі, як гэта рабіў малады Кім Ір Сен. Асноўныя ідэалагічныя працы Кім Ір Сена і Кім Чэн Іра вывучаюцца на працягу ўсяго жыцця. Любое месца, дзе быў правадыр, уключаючы лаўку, на якую ён неяк прысеў, адразу пазначаецца памятнай дошкай і г.д. Можна казаць катэгарычна: без культу Кімаў (у тым ліку жывога Кіма) існаванне КНДР як дзяржавы немагчымае.

***— Наколькі штучнай для паўночных карэйцаў з'яўляецца такая практыка шанавання палітыкаў?***

— Цяжкае пытанне, паколькі асновы культу Кім Ір Сена, відавочна, будаваліся па формуле культу Сталіна і Мао. Мы можам знайсці серыю аналагаў, калі параўноўваць тое ж манументальнае мастацтва 1950-х гадоў у СССР і ў КНДР. Аднак у комплексе культ Кім Ір Сена быў аформлены толькі ў 1960-я гады. У гэты час Кім Ір Сена пачалі называць Сонцам Нацы, бо ён «мае незгасальныя заслугі для справы чалавецтва» і г. д. Тады таксама была прынятая канстытуцыя, якая сцвярджала: «Таварыш Кім Ір Сен — геній ідэй, тэорыі і практыкі кіраўніцтва, усёпераможны вайсковец, вялікі рэвалюцыянер, палітычны дзеяч і чалавек з вялікай літары». Такое праслаўленне шмат у чым было рэакцыяй на падзеі ў СССР і Кітаі, дзе ішлі працэсы адлігі і культурнай рэвалюцыі, накіраваныя супраць старой палітычнай эліты. Каб захаваць уладу, Кім Ір Сен і ўстанавіў рэжым татальнай ізаляцыі і пачаў ствараць асабісты культ. Тое, што ён выкарыстоўваў напрацоўкі гістарычнай школы карэйскага нацыяналізму, безумоўна. Для піянераў карэйскага нацыяналізму характэрна арыентацыя на элітарную канфуцыянскую традыцыю, частка якой — культ дзяржавы, арыентацыя на моцную ўладу і ўсё, што з ёй звязана і яе сімвалізуе. Не дзіўна, што саму канцэпцыю «чучхэ» (апора на ўласныя сілы) Кім Ір Сен пазычыў у аднаго з правых нацыяналістаў.

***— Вельмі цяжка зразумець, як паўночнакарэйскія прыхільнікі марксізму, які застаецца афіцыйнай ідэалогіяй у КНДР, могуць апраўдваць дынастычную схему перадачы ўлады?***

— Усё пачалося з фігуры лідара Кім Ір Сена, які надзелены якасцямі месіі. Адпаведна афіцыёзу, калі ён нарадзіўся, у небе з'явілася падвойная вясёлка і яскравая зорка. Хлопчыку з дзяцінства былі ўласцівыя фантастычныя здольнасці. Так, ужо ў тры гады ён, быццам, мог скакаць на кані і страляць з пісталету па японскіх акупантах. Кім Чэн Ір быў блізкі да бацькі і вучыўся ў яго, ён яшчэ ў дзяцінстве стаў вундэркіндам. Такім чынам легітымізуюцца правы нашчадкаў Кім Ір Сена на тое, каб займаць вышэйшыя пасады ў дзяржаве. Як бачым, з аднаго боку, голы матэрыялізм — сын вучыцца ў геніяльнага бацькі практычным навукам, а з іншага — элементы тэорыі манархіі: дадзены небам геній і аўтарытэт перадаецца па прынцыпу крыві.

***— Кім Ір Сена пазіцыянавалі як «генералісімуса» — пераможцу амерыканскіх імперыялістаў, Кім Чэн Ір быў «любімым кіраўніком», добрым менеджарам і адміністратарам. Як пазіцыянуе сябе малады Кім Чэн Ын?***

— Пакуль галоўным чынам яго падаюць як абаронцу дзяцей. Напярэдадні 8 студзеня мы атрымалі з пасольства КНДР матэрыялы пра тое, як трэба распавядаць пра новага лідара. Я хацеў бы працытаваць некаторыя фрагменты: «Людзей кранае бязмерная любоў Кім Чэн Ына да нашчадкаў. Гэта самае шчырае і выдатнае пачуццё. У навагоднія свята гэтага года Кім Чэн Ын наведаў Мангендэскае рэвалюцыйнае вучылішча. Ён з пачуццём роднага бацькі цалаваў шчокі курсантаў, ад радасці праліваў слёзы, доўгі час назіраў, як яны ядуць».

Праўда, у кантэксце абвастрэння адносін з ЗША, я думаю, Кім Чэн Ын атрымае нейкі вайсковы тытул. Яго ўжо называюць «стратэгам са стратэгаў», праўда, не так часта.

***— Для мяне галоўнай фішкай культу асобы Кімаў былі апавяданні пра іх казачныя ўчынкі. Напрыклад, Кім Ір Сен, калі верыць прапагандзе КНДР, мог прадказваць ураганы. Ці Кім Чэн Ын здольны рабіць падобныя цуды?***

— Ён толькі вучыцца. Аднак здольнасці ў яго, або ў тых, хто апісвае яго подзвігі, някепскія. Так, прэса КНДР паведамляе, што на днях Кім Чэн Ын наведаў сям'ю працоўнага, якая перасялілася ў новую кватэру. Падчас візіту ён пасадзіў на сваё калена малодшага сына, школьніка пачатковай школы, і, калі верыць газетам, з пяшчотай навучыў яго маляванню. Усе прысутныя былі ў захапленні ад малюнкаў. Вось так. Так што, думаю, што ў Кім Чэн Ына ўсё яшчэ наперадзе.





## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Перад Новым годам традыцыйна прынята раздаваць старыя запазычанасці. Калі ўласныя запазычанасці мы можам сплаціць з атрыманай у дваццатых днях снежня зарплаты, то што рабіць з абавязкамі краіны? Для Беларусі, чый аб'ём нацыянальнай запазычанасці за гады паспяховага кіравання А.Р. Лукашэнкі вырас да завоблачных маштабаў (звыш 33 мільярдаў долараў), гэта праблема надзвычай актуальная.

**«Cossa» (Расія)**

Масква была б гатовая паставіць патрэбны Беларусі аб'ём нафты, але чакае ў адказ згоды ў пытаннях прыватызацыі дзяржуласнасці з удзелам расійскага бізнэсу. Прэзідэнт Лукашэнка разумее, што ўласнасць — гэта ўлада, і таму не спяшаецца з прыватызацыяй. Так што рознагалоссяў усё ж не пазбегнуць, бо Расія паказвае, пры якіх умовах Беларусь будзе атрымліваць пернікі. У 2013 годзе Беларусь не зможа пазбегнуць продажу некаторых актываў — на гэты час прыходзіцца пік выплат па знешніх абавязках і крэдытах.

**«Deutche Welle» (Германія)**

Дакладных дадзеных па колькасці беларусаў, якія пакінулі радзіму, няма, паколькі межы паміж Расіяй і Беларуссю адкрытыя, аднак, па ацэнках прафсаюзаў, з Беларусі кожны год з'язджаюць каля 150 тысяч чалавек. 85% з'язджаюць у Расію, астатнія — у суседнія краіны ЕС, найперш у Польшчу. Справа не толькі ў нізкіх заробках: маладыя людзі і кваліфікаваныя спецыялісты ва ўмовах жорсткай рэгламентацыі не бачаць магчымасцяў для самарэалізацыі. Дэкрэт Лукашэнкі мала што зменіць. Нават функцыянеры з вышэйшага эшалону ўлады прызнаюць, што дзейная эканамічная мадэль сябе вычарпала, аднак баяцца адкрыта пярэчыць «апошняму дыктатару Еўропы».

**«Tageszeitung» (Германія)**

Галоўны вынік 2012 года — Пуцін пакрыўдзіўся на Расію. Гэта значыць, даспеў да стадыі А.Р. Лукашэнкі. Той даўно знаходзіцца ў крыўдзе на Беларусь і яе няўдзячнае насельніцтва. Ён яе, сінявокую, носіць каля сэрца як крыштальную вазу, а гэтыя гультаі працаваць не жадаюць. «Нам бы, — кажуць, — зарплату!» І паволі бягуць за межы шчаслівай рэспублікі. Ну ці не здраднікі?!

**«Ежедневный журнал» (Расія)**

Надышоўшы год стане пераломным для эканомікі Беларусі, заявіў прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка ў сваім навагоднім звароце. Натуральна, гучныя словы прэзідэнта Рэспублікі Беларусь не засталіся без увагі экспертаў. Вядомы эканаміст А. Істэвіч цвёрда ўпэўнены ў тым, што пераломны момант прыйдзе для беларускай эканомікі менавіта ў 2013 годзе, але вось ці будзе ён пазітыўным — гэта зусім іншае пытанне. Справа ў тым, што эканамічны крызіс, які знянацку заспеў фінансавую сістэму Беларусі і шматлікія сферы эканомікі, зламаў ілюзію абароненасці ў грамадзян краіны, — лічыць Істэвіч, — а значыць, перaлом можа мець і негатыўны характар.

**crimelist.ru (Расія)**

Прэзідэнт Беларусі сам сябе пазбаўляе ўлады. Аляксандр Лукашэнка заплюшчвае вочы на эканамічныя праблемы краіны, з-за чаго Беларусь апынаецца пад уплывам Крамля, які рады кантраляваць «сваіх сяброў».

**«Frankfurter Allgemeine» (Германія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЛІТВА. ЮБІЛЕЙ БАЦЬКІ ЛІТОЎСКАЙ ССР



У Літве адзначылі 110-годдзе палітычнага дзеяча Антанаса Снечкуса (1903–1974), які з 1940 па 1974 гады працаваў першым сакратаром Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Літвы. Напярэдадні ўгодак на яго магіле сабраліся сябры літоўскіх левых партый, былыя дзяржаўныя, адміністрацыйныя і партыйныя лідары Савецкай Літвы. Усё сваё жыццё Антанас звязаў з камуністычным рухам, за што ў антыкамуністычнай Літве неадназарова падпадаў пад турэмны пераслед. Спачатку яго асудзілі на 15 гадоў турмы, а пасля — на восем. Аднак галоўным яго талентам аказаўся не канспіратарскі, а арганізатарскі. Займаючы пасля вайны кіраўнічыя пасады, у тым ліку першага сакратара Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Літвы, ён здолеў так арганізаваць паваеннае будаўніцтва, што за кароткі час прамысловая вытворчасць у некалі аграрнай рэспубліцы заняла вядучае месца. Пры ім эканоміка Літоўскай ССР дасягнула такіх паказчыкаў, якія забяспечылі самы высокі ўзровень жыцця грамадзян саюзнай рэспублікі ў СССР. Сёння Снечкус добра вядомы выключна людзям сярэдняга і старэйшага ўзросту. Хаця левыя маюць намер вярнуць інтарэс да спадчыны Снечкуса. У дзень 110-й гадавіны яго нараджэння адбылася прэзентацыя кнігі, прысвечанай былому лідару ЛітССР.

**Паводле літоўскай прэсы**

### УКРАІНА. КІТАЙСКІЯ КАМУНІСТЫ ВЫРАТАВАЛІ ЎКРАІНЦАЎ АД ГОЛАДУ

Пётр Сіманенка, лідар Камуністычнай партыі Украіны, выступіў з сенсацыйнай заявай. Аказваецца, менавіта дзякуючы кітайскім камуністам украінцы маюць магчымасць сілкавацца і апранацца. «Калі б не камуністычны Кітай, то голыя і босыя ўкраінцы хадзілі б, таму што еўрапейскую прадукцыю па такіх коштах яны купляць не здольныя. А сёння кормяць, абуваюць і апранаюць грамадзян Украіны кітайскія камуністы», — сказаў ён. Заява ўжо сама па сабе цягне на скандал. Аднак Сіманенка пайшоў яшчэ далей. Па яго словах, выбаршчыкі, якія падтрымалі Кампартыю на выбарах у Вярхоўную Раду, няправільна зразумелі іх асноўны лозунг — «Вернем краіну народа». Па словах камуніста, вяртаць краіну павінны самі людзі. Пакуль цяжка сказаць, як словы Сіманенкі адаб'юцца на выбарчай статыстыцы. Аднак, калі меркаваць па пастах на інтэрнэт-форумах, шмат хто з чырвонага электарату яўна не задаволены выхадкай галоўнага ўкраінскага камуніста.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### МАЛДОВА. ПРАВАСЛАЎНЫМ ЗАБАРАНІЛІ СВЯТКАВАЦЬ КАЛЯДЫ 25 СНЕЖНЯ

Праваслаўныя святары Малдовы патрабуюць выбачэнняў ад лідараў праеўрапейскай Ліберальнай партыі (ЛП) за прапанову святкаваць Каляды 25 снежня, як гэта робіць большасць хрысціян у свеце. Нагадаем, што 20 снежня 2012 года на пленарным пасяджэнні парламента Рэспублікі Малдова Ліберальная партыя выступіла з ініцыятывай зацвердзіць 25 снежня агульнанацыянальным святам. Міхай Гімпу падчас выступу матываваў дадзеную прапанову абраным еўрапейскім вектарам развіцця Малдовы. «Куды мы плануем уступіць — у Еўрапейскі саюз ці ў Еўразійскі?» — заявіў Гімпу, заклікаючы святкаваць Раство 25-га снежня. Аднак у выніку ён так і не знайшоў неабходнай падтрымкі сярод калегаў у парламенце. Наадварот, праз пару дзён сам стаў аб'ектам атакі царквы.

**Паводле малдаўскай прэсы**

### ВЕНЕСУЭЛА. ЗА ЗДАРОЎЕ ЧАВЕСА ЗМАГАЮЦЦА Ў ФЭЙСБУКУ



Віцэ-прэм'ер Венесуэлы Нікалас Мадура заклікаў суайчыннікаў, і перш за ўсё прыхільнікаў цяперашняга курсу, быць больш актыўнымі ў сацыяльных сетках. Па словах Мадура, кожны свядомы прыхільнік баліварскай рэвалюцыі павінен абараняць тэзіс пра тое, што Уга Чавес хутка стане на ногі. Нагадаем, што апошнім часам пашырыліся чуткі пра тое, што прэзідэнт Венесуэлы можа стаць ахвярай хваробы на рак, ад якой ён пакутуе апошнія паўтары гады. Падобныя спекуляцыі садзейнічалі дэстабілізацыі сітуацыі ў краіне. Па словах Мадура, калі патрыёты будуць на інтэрнэт-форумах аспрэчваць інсінуацыі наконт здароўя прэзідэнта, «путч у мазгах» можна будзе пазбегнуць. Варта зазначыць, што Венесуэла — адзін з лідараў у Лацінскай Амерыцы па колькасці карыстальнікаў Twitter. Так, у самога Чавеса больш за 3 мільёна чытачоў яго акаўнта ў Twitter, які, праўда, па невядомых прычынах, не абнаўляецца ўжо больш за месяц. Апазіцыя ў сваю чаргу кажа, што выхад на Facebook і Twitter не дапаможа чавістам. Чуткі пра хуткую смерць гаранта можа спыніць толькі праўдзівая інфармацыя пра здароўе Чавеса, якую, па іх словах, улада хавае. Увогуле, словы Мадура з'яўляюцца вялікім прагрэсам. Раней ён заклікаў разглядаць распаўсюд інфармацыі пра кепскае здароўе Чавеса ў інтэрнэце як удзел у спробе дзяржаўнага перавароту.

**Паводле іспанскай прэсы**

▸ СІМВОЛІКА

# ПРЫДУМАЙ САБЕ СЦЯГ

**Алег НОВІКАЎ**

**Вулічныя беспарадкі ў Белфасце, выкліканыя рашэннем прыбраць з будынка ратушы сцяг Вялікабрытаніі, рэанімавалі дыскусію пра неабходнасць новай сімволікі для Паўночнай Ірландыі, якая б здолела задаволіць пратэстантаў і каталікоў.**



Цяпер сцягам Паўночнай Ірландыі з'яўляецца сцяг Вялікабрытаніі, які часта называюць «Юніян Джэк». Гэта не значыць, што ў Паўночнай Ірландыі ніколі не было сваёй сімволікі. «Юніян Джэк» стаў сімвалам рэгіёна ў 1972 годзе, калі Лондан з-за росту міжэтнічнай напружанасці распусціў урад у Белфасце і ўвёў прамое кіраванне. Адсюль узяўся і брытанскі сцяг.

Дагэтуль у якасці сімвалу Паўночнай Ірландыі выкарыстоўваўся сцяг, базавым знакам якога была выява адкрытай далоні — так званая «Чырвоная рука». З гэтым знакам звязана шмат цікавых кельцкіх легендаў. Паводле адной з іх, гэта рука паганскага бога Нуаду. Паводле іншага міфу, два каралі змагаліся за права кантролю над землямі Ірландыі, і ўмовай барацьбы было пераадолець водную плынь і першым дакрануцца рукой да берагу. Дзеля перамогі адзін з каралёў падчас заплыву адрэзаў сабе руку і кінуў яе на бераг.

Спачатку «Чырвоная рука» актыўна выкарыстоўвалася ірландскімі нацыяналістамі. Напрыклад, мы можам знайсці гэтую выяву ў сімволіцы нацыяналістычных прафсаюзаў пачатку XX стагоддзя. Аднак у час дэбатаў наконт аўтаноміі для Ірландыі «Чырвоная рука» стала сімвалам лаялістаў, або, як іх яшчэ называюць, юніяністаў — прыхільнікаў знаходжання Паўночнай Ірландыі ў складзе Вялікабрытаніі. У 1924 годзе на базе гэтага сімвалу і быў створаны афіцыйны сцяг правінцыі.

Пасля таго, як у 1972 годзе «Чырвоную руку» пазбавілі статуса афіцыйнай сімволікі, яе прыватызавалі лаялісты. У праграмах іх палітычных партый утрымліваецца патрабаванне вярнуць сцяг у якасці правінцыйнай сімволікі. Праўда, сцяг з рукой захавала нацыянальная футбольная зборная Паўночнай Ірландыі. Падчас спартовых гульняў Брытанскай садружнасці атлеты з Паўночнай Ірландыі таксама маршыруюць пад гэтым сімвалам.

Зразумела, «Чырвоная рука» радыкальна не задавальняе каталікоў. Яны выкарыстоўваюць у якасці сімвалу Паўночнай Ірландыі трыкалор Ірландскай Рэспублікі, тым самым даючы зразумець, што Ірландыя павінна быць выключна адзінай. У іх папулярны і зялёны сцяг з выявай арфы. Гэты сцяг нарадзіўся ў час ірландскага паўстання 1789 года, а ў XIX стагоддзі стаў адным з галоўных сімвалаў ірландскіх нацыяналістаў. Менавіта Green Ensign (так называюць гэты сцяг) лунаў у цэнтры Белфаста падчас славутага антыбрытанскага паўстання на Вялікдзень у 1916 годзе.

Некаторыя фракцыі ірландцаў выступаюць пад сцягам, які называецца «Сцяг узыходу». Ён быў створаны на аснове сюжэтаў кельцкай міфалогіі. З той жа оперы «Сцяг сузор'я Вялікага Каўшу» — выява зорак на сінім полі. Аказваецца, сузор'е Вялікі Коўш добра назіраць у небе менавіта ў Ірландыі. Праўда, нягледзячы на такую рамантычную канцэпцыю сцяга Вялікага Каўшу, часцей за ўсё, яго пускалі ў ход радыкальныя сацыялісты.

Падпісанне паміж каталікамі і пратэстантамі Пагаднення Добрай Пятніцы ў 1998 годзе натхніла шмат каго на стварэнне новай рэгіянальнай сімволікі. Тым больш, што адзін з пунктаў пагаднення патрабаваў «стварэння ў будучым сімвалаў, якія б выклікалі павагу ў кожнага з былых удзельнікаў канфлікту». Хутка быў прапанаваны шэраг праектаў.

У архівах знайшлі сімволіку, якая прэзентавала рэгіён яшчэ да апошняга канфесіянальнага канфлікту і якая быццам бы не мае ідэйнай нагрузкі.

Напрыклад, Сцяг Святога Патрыка. Сцяг уяўляе сабой чырвоны крыж на белым фоне, які, у сваю чаргу, ёсць знакам патрона Ірландыі — Святога Патрыка. Аднак тут узніклі супярэчнасці. Справа ў тым, што сувязь дадзенага сцяга са старажытнай Ірландыяй і Святым Патрыкам не даказаная. Крыж выкарыстоўваецца ў ордэне Святога Патрыка, заснаваным у 1783 годзе каралём Георгам III, а пасля ўніі Вялікабрытаніі і Ірландыі сімвалізуе Ірландыю на сцягу Вялікабрытаніі. З гэтай прычыны сцяг Святога Патрыка не прызнаюць шматлікія ірландскія нацыяналісты, бо бачаць у ім падробку брытанскіх каланізатараў.

Напрыканцы 1990-х гадоў да стварэння сцяга для Паўночнай Ірландыі падключылася і славутае радыё BBC. Яго журналісты вырашылі ўзяць «Чырвоную руку» і проста паставіць яе ў цэнтр чырвонага крыжа на жоўтым полі. Аднак дызайн не спадабаўся жыхарам Паўночнай Ірландыі. Таксама праваліласа распрацоўка Інстытуту сцягоў (ёсць такая ўстанова ў Вялікабрытаніі): макет на аснове знака «Чырвоная рука» быў адмоўна сустрэты каталікамі як занадта лаялісцкі.

У выніку некаторыя дызайнеры плюнулі на старадаўнюю геральдыку і проста прапанавалі сцяг з выявай мапы Паўночнай Ірландыі. Дарэчы, па такой формуле створаныя сцягі Косава і Кіпра. Ідэю горача падтрымала ліберальная партыя «Альянс», іншыя ж палітычныя сілы Паўночнай Ірландыі, на зло канкурэнтам, раскрытыкавалі прапанову. Край зноў застаўся без сцяга.

Апошнія падзеі рэанімавалі старую дыскусію. На Facebook створаны цэлы акаўнт, удзельнікі якога намагаюцца прыдумаць для Паўночнай Ірландыі новы штандар. Хапае і арыгінальных варыянтаў. Напрыклад, некаторыя прапануюць проста ў адной частцы сцяга Паўночнай Ірландыі адлюстраваць брытанскі сцяг, а ў другой — ірландскі. І вашым, і нашым.

Праўда, у конкурсах такога кшталту ёсць адна асаблівасць. Не факт, што радыкальныя нацыяналісты з абодвух лагераў пагодзяцца на кампраміс. Справа не ў тым, што яны такія ўжо фанаты знака «Чырвоная рука» або трыкалору. Вось як газета «The Guardian» апісвае палітычную культуру маладых пратэстантаў — удзельнікаў цяперашніх пратэстаў у Паўночнай Ірландыі: «Яны — рабочы клас і маргіналы, выключаныя з палітыкі вядучых юніяністцкіх партый. Не звяртаюць увагу на сацыяльную дэградацыю, адказнасць за якую лаялісцкая моладзь часта перакладае на каталікоў. Аднак патрабаванні пратэстоўцаў абсалютна не рэальныя. Напрыклад, аднаўленне прамога кіравання з Лондану або адмена мірнага Пагаднення Добрай Пятніцы».

З улікам такога прымітыўнага ўзроўню палітычнай культуры пратэстоўцаў-радыкалаў, нельга спадзявацца на нейкі сур'ёзны і канструктыўны дыялог, у тым ліку і наконт новай сімволікі. Пытанне са сцягам Паўночнай Ірландыі зноў застаецца адкрытым.

**Некаторыя дызайнеры плюнулі на старадаўнюю геральдыку і проста прапанавалі сцяг з выявай мапы Паўночнай Ірландыі. Дарэчы, па такой формуле створаныя сцягі Косава і Кіпра**

ВЫБАРЫ

# АПОШНІ ТЭСТ ДЛЯ КАНЦЛЕРА

Алег НОВІКАЎ

**20 студзеня нямецкая зямля Ніжняя Саксонія абірае новы парламент. Вынікі галасавання шмат у чым вызначаць, ці здольная апазіцыя перамагчы Ангелу Меркель на федэральных выбарах у верасні.**



Паралелі напрошваюцца самі сабой. Увесну 1998 года трыумфальная перамога Герхарда Шродэра на выбарах у Ніжняй Саксоніі зрабіла яго фаварытам у барацьбе за пасаду канцлера. Прыкладна праз паўгода сацыял-дэмакраты ў кааліцыі з «Зялёнымі» паклалі канец так званай эры Гельмута Коля, які на працягу 16 гадоў кіраваў ФРГ.

На першы погляд, праз 15 гадоў гісторыя паўтараецца. Гэта можна пабачыць па пытаннях, якія ўздымаюцца падчас цяперашняй кампаніі ў Ніжняй Саксоніі. Хаця ўсе кандыдаты абмяркоўваюць у тым ліку і мясцовую павестку дня: праблемы адукацыі, планы рэгіянальнага развіцця, але на першым плане знаходзіцца лёс восеньскіх выбараў у Бундэстаг. Усе партыі разглядаюць студзеньскія выбары як апошні тэст перад галоўнымі выбарамі пяцігодкі.

У гэтым плане вельмі цікавая сітуацыя склалася з сацыял-дэмакратамі. Палітычныя аглядальнікі лічаць, што ў эсдэка Штэфана Вэйля больш шансаў стаць новым прэм'ерам зямельнага ўраду, чым у дзеючага Дэвіда Макалістара, які прадстаўляе Хрысціянска-дэмакратычны саюз (CDU). Аднак простай перамогі «ружовым» будзе мала. Эсдэкам і іх прэтэндэнту на пасаду канцлера Пееру Штайнбруку патрэбны трыумф, накшталт таго, які эсдэкі мелі ў Ніжняй Саксоніі 15 гадоў таму. Трэба, каб сапраўды павеяў вецер пераменаў. Без такога драйву захаваецца цяперашняя сітуацыя, калі шмат хто не верыць у здольнасць апазіцыі пасунуць Меркель з крэсла кіраўніка ўраду.

Скептыцызм выклікае перш за ўсё фігура кандыдата SPD. Прэса, у тым ліку і левая, ахвотна піша, што ў плане харызмы Пеер яўна саступае Ангеле. Той факт, што рэйтынг SPD (25 працэнтаў, адпаведна апытанням агенцтва «Forsa» за 9 студзеня) ніжэйшы за ўзровень папулярнасці CDU (42 працэнтаў), таксама звязваюць з іміджам Штайнбрука, які падобны да заможнага тэхнакрата. Такі імідж не вельмі пасуе дастаткова радыкальнай праграме партыі: высокія падаткі для багатых, узды мінімальнай аплаты працы, жаночая квота і г.д. У прынцыпе, сам Штайнбрук дае падставы для крытыкі. Нават будучы кандыдатам левай партыі, ён не адмовіўся ад таго, каб чытаць лекцыі для менеджменту буйных прыватных банкаў, якія ў народзе лічацца галоўнымі адказнымі за цяперашні крызіс.

У выніку мы назіраем незвычайную сітуацыю, калі практычна кожны тыдзень нехта з бонзаў SPD задаецца пытаннем, ці Штайнбрук той самы палітык, які запатрабаваны сёння ў якасці кандыдата. Падобныя дыскусіі выклікаюць апатыю сярод апазіцыйнага электарату і раздражняюць кіраўніцтва SPD. Асаблівае нярвуюць іх дэбаты наконт левай імпатэнтнасці Штайнбрука ўнутры «Зялёных», якія з'яўляюцца традыцыйным партнёрам эсдэкаў. Апошнім часам шэраг «зялёных» лідараў абвінавацiў Штайнбрука ў антысацыяльных забабонах, яны нават патрабавалі, каб партыя ішла на выбары не даючы сацыял-дэмакратам абяцання пра стварэнне агульнай кааліцыі. Хаця інсайдары сцвярджаюць, што «Зялёныя» папросту блефуюць.

Адзінае, што ў гэтай сітуацыі грэе душу эсдэкам, няздольнасць кансерватараў самастойна сфармаваць кабінет, нават калі яны і даб'юцца ўвосень адноснай перамогі. Лібералы — традыцыйныя партнёры хрысціянскіх дэмакратаў — балансуюць на мяжы пяці працэнтаў папулярнасці (пяць працэнтаў, паводле нямецкіх законаў, — бар'ер для праходу ў парламент). Дарэчы, выбары ў Ніжняй Саксоніі могуць мець фатальны вынік для іх цяперашняга лідара Філіпа Рэслера. Калі ягоная Партыя свабодных дэмакратаў (FDP) не пралезе 20 студзеня ў ландтаг, унутраная апазіцыя стоадсоткава будзе патрабаваць пераабрання старшыні.

Што да спекуляцый наконт фармату будучага ўраду ФРГ, дык апошнім часам папаўзлі плёткі, нібы кансерватары могуць прапанаваць кааліцыю «Зялёным», якім давяраюць 15 працэнтаў немцаў. Такія чорна-зялёныя (чорны — партыйны колер CDU) кааліцыі сапраўды існуюць на месцах, напрыклад, у Гамбургу, хаця дасюль з'яўляюцца выключэннем з правілаў. Дадатковым аргументам на карысць чорна-зялёнай змовы сталі вынікі праймерыз сярод «Зялёных» на пасаду кандыдата ў канцлеры. Як і прагназавалася, перамог партыйны ветэран Юрген Трыцін з 70 працэнтамі. Затое другое месца (і першае месца па жаночай квоце) сенсацыйна заняла Катрын Гёрынг-Экардт, адзін з лідараў нямецкіх евангелістаў, былая дысідэнтка ў часы ГДР. Катрын, як бачым, нельга назваць класічным прадстаўніком зялёнага руху. Усё гэта дало падставы казаць пра ідэалагічны дрэйф эколагаў да палітычнага цэнтру, што патэнцыйна стварае ўмовы для сяброўства з кансерватарамі. Праўда, гэта не вітаецца значнай часткай «Зялёных». Акрамя таго, сярод «чорных» хапае артадоксаў, якія не могуць прабачыць таму ж Юргену Трыціну яго моладзевае захапленне ідэямі Маа Цзэдуна. На думку экспертаў, у выпадку стварэння кааліцыі з «Зялёнымі», краіну чакае рэжым жудаснай турбулентнасці.

Хаця Ніжняя Саксонія адносіцца да заходніх зямель ФРГ, дзе камуністы традыцыйна не маюць значнага ўплыву, партыя «Левыя» (іх сённяшні рэйтынг — 9 працэнтаў) праводзіць дастаткова актыўную кампанію. Стаўка робіцца не колькі на праходжанне ў зямельны парламент, колькі на тое, каб звярнуць на сябе ўвагу выбаршчыкаў па ўсёй краіне з прыцэлам на хуткія выбары ў Бундэстаг. Прыкладна з такіх жа пазіцый падыходзіць да выбараў 20 студзеня і Партыя піратаў, якой, праўда, мала што свеціць.

Той факт, што «Левыя» і лібералы захоўваюць шансы прайсці ў зямельны парламент, дадае выбарам 20 студзеня яшчэ адну інтрыгу. У такім разе ў новым парламенце будзе партыйны пат — і ландтаг стане своеасаблівым праўобразам будучага федэральнага парламента. А гэта значыць, што перамовы наконт складу ўраду Ніжняй Саксоніі фактычна ператворацца ў размінку перад пачаткам працэсу фармавання нацыянальнага кабінета міністраў.

Праўда, таксама не выключана, што ўсе апісаныя камбінацыі рызыкуюць быць пахаванымі ўжо 20 студзеня. Такі варыянт магчымы, калі хрысціянскія дэмакраты ўтрымаюць Ніжнюю Саксонію. Гэта надасць імпульс Ангеле Меркель і яе саюзнікам (або без іх) змагацца за большасць у Бундэстагу.

Ёсць як мінімум два фактары, якія могуць дапамагчы Ангеле Меркель захаваць сваё цяперашняе працоўнае месца. Па-першае, сярэдні клас — гегемон нямецкай палітыкі, у плане каштоўнасцяў бліжэй да Меркель, чым да Штайнбрука. У гэтым плане сітуацыя не падобная на 1998 год, калі Гельмут Коль ужо відавочна не пасаваў настроям бюргераў, чым удала скарыстаўся Герхард Шродэр. Па-другое, ёсць сцэнар, адпаведна якому да восені 2013 года сусветная рэцэсія закончыцца, і тады Меркель — архітэктар антыкрызіснай палітыкі эканоміі, якую зараз праводзяць большасць краін ЕС, — стане кумірам натоўпу і гарантавана застанецца на пасадзе канцлера.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### СЯРГЕЙ АРБУЗАЎ



Новы 36-гадовы віцэ-прэм'ер украінскага ўраду прызначаны на пасаду ў выніку рэарганізацыі кабінету Міколы Азарава 24 снежня мінулага года. Яго імклівы ўздым па кар'ернай лесвіцы (Арбузаў працаваў кіраўніком Нацбанку) выклікаў чуткі пра тое, што менавіта ён стане наступным кіраўніком кабінета міністраў. На карысць гэтай версіі кажа таксама тое, што Арбузаў — выхадзец з Данецку, а таму яго кандыдатура задавальняе Януковіча. Эксперты не лічаць Арбузава самастойнай фігурай і мяркуюць, што ён трапіў у фавор часова. На думку большасці экспертаў, Януковіч праз прызначэнне Арбузава давёў, што не мае ніякіх прарыўных праектаў, і прызначае людзей па прынцыпу асабістай адданасці. Так, маці Арбузава ўзначальвае праўленне прыватнага банка, падкантрольнага сыну Януковіча. Такая кадравая палітыка Віктара Фёдаравіча, як лічаць эксперты, падрывае шансы Януковіча на пераабранне ў 2015 годзе.

### МАРЭЙКЕ ПІТЭР



24-гадовая сябра нямецкай Партыі піратаў, супрацоўніца офісу фракцыі піратаў пры берлінскім парламенце, на працягу снежня ператварылася ў анфан тэрыбль піратаў, якія і так маюць шмат праблемаў з іміджам. Апошнім часам іх перасталі ўспрымаць усур'ёз, што адлюстравалася на рэйтынгу, які рухнуў за паўгода з 12 да 3 працэнтаў. Між тым, Марэйке толькі падлівае алею ў агонь. Спачатку ў лістападзе яна публічна заклікала да падпалаў у знак пратэсту супраць прызначэння на пасаду дырэктара паліцэйскага дэпартаменту кансерватара Клаўса Кандта. У снежні ў сваім блогу яна назвала яго «расісцкая ж..а», што выклікала нацыянальны скандал. Нават кіраўніцтва партыі пасняшалася адмежавацца ад радыкалкі. Аднак Марэйке не збаўляе абароты. На днях яна заявіла, што высоўвае сваю кандыдатуру на пасаду дэпутата ад Партыі піратаў на парламенцкіх выбарах, якія адбудуцца ў гэтым годзе. Заклік кіраўніцтва партыі адмовіцца ад балатавання «піратка» праігнаравала. Па яе словах, яна павінна ісці ў Бундэстаг, бо гэтага патрабуе яе жаночая прырода.

### МАНУЭЛЬ ВАЛС

Паводле апошніх сацыялагічных апытанняў, міністр унутраных спраў Францыі сенсацыйна для ўсіх прызнаны самым папулярным французскім міністрам. Яго дзейнасць падтрымліваюць каля 45 працэнтаў апытаных. Такая папулярнасць незвычайная хаця б з улікам таго, што Мануэль — не этнічны француз. Ён нарадзіўся ў Барселоне ў сям'і іспанца і швейцаркі ў 1962 годзе і атрымаў пашпарт француза толькі ва ўзросце 20 гадоў. Яшчэ больш незвычайна тое, што французы, і перш за ўсё левых поглядаў, сімпатызуюць дырэктару МУС, які выконвае брудную справу накшталт падаўлення бунтаў імігрантаў і, больш таго, сімпатызуе NATO. Аднак у выніку аказалася, што Валс задавальняе ўсіх. Ён сапраўды брутальна пераследуе хуліганаў, аднак пры гэтым спрабуе змагацца з гэтай з'явай больш паслядоўна, напрыклад, выступае за тое, каб імігранты лягчэй набывалі французскія пашпарты і ўдзельнічалі ў мясцовым самакіраванні. Феномен Валса выклікаў шмат дэбатаў. Цікава, што галоўнага паліцэйскага аднолькава ненавідзяць як левыя, так і правыя. Марына Ле Пэн ужо назвала яго «левы Сарказі». Між тым, прэса сцвярджае, што, калі справа так пойдзе і далей, хутка Валс атрымае партфель прэм'ер-міністра, а некаторыя перакананыя, што Валс зможа аб'яднаць правых сацыялістаў і лібералаў у новую партыю.



▸ **КНІГАРНЯ**

# ЖЫЦЦЁ І КАХАННЕ Ў ЖОРНАХ «НАРОДНАЙ ДЭМАКРАТЫІ»

Лявон БАРШЧЭЎСКІ

**У мінулым годзе Зміцер Колас выдаў цудоўную кнігу Жо Лангеравай «Калісьці ў Браціславе: Маё жыццё з Оскарам Л.», пераклад са славацкай мовы Паўла Раагі.**




На старонках гэтай кнігі прыгожая і разумная жанчына піша пра тое, што ёй давялося перажыць у той Чэхаславакіі, якую ў савецкіх выданнях было прынята называць «народнай дэмакратыяй». Кніга напісаная без надрыву, эпатажу, лозунгаў. Сэрца аўтара — неабыякавае, розум — цвярозы, цела — эратычна-прывабнае. Так успрымаецца кніга, што на радзіме выйшла праз сямнаццаць гадоў пасля смерці яе аўтара.

Беларускі пераклад кнігі Жо Лангеравай не надта прыпазніўся: у Браціславе па-славацку першы раз яна была надрукаваная толькі пяць гадоў таму.

Калі глядзець фармальна, жанр гэтай кнігі можна вызначыць халаднаватым словам «мемуары». Але выдавецкая анатацыя слушна называе кнігу «Калісьці ў Браціславе» аўтабіяграфічным раманам. А ў рамане ў цэнтры ўсяго павінна быць каханне.

Чым яшчэ, як не ўсеабдымным каханнем да свайго мужа, левага інтэлектуала Оскара Лангера, можна патлумачыць тое, што маладая жанчына-габрэйка праз некалькі гадоў пасля заканчэння Другой сусветнай вайны, пражыўшы больш за 10 гадоў з ім у ЗША і збольшага адаптаваўшыся да тамтэйшых варункаў, пагаджаецца разам з мужам і народжанай там жа, у Штатах, дачкой-падлеткам Зузкаю вярнуцца ў край сваіх юначых гадоў? З мужам усё зразумела: ён атрымаў ліст ад высокага партыйнага функцыянера Карла Бацылека… Але свае думкі наконт гэтага ў Жо Лангеравай, бліжэйшыя сваякі якой у вайну сталі ахвярамі халакосту.

Жыццё за акіянам для яе не складалася бясхмарна. Спачатку маладая жанчына паспрабавала сябе ў ролі гандлёвага агента.

Больш паспяховай была праца Жо ў якасці афіцыянткі, бо яна «прыносіла ежу людзям, якія хацелі есці». Але ж яна стала пачувацца і «няшчаснай жонкай», бо канфлікты з мужам, які ніяк не мог знайсці сабе прыстойнай працы, узніклі зусім не на гэтай, а на палітычнай глебе.

У адрозненне ад старэйшага за сябе мужа, Жо Лангерава ўжо тады зразумела, што нешта з «самай перадавой на свеце партыяй» не так.

Толькі вось ідэйны муж гераіні кнігі не здолеў гэтага зразумець або ацаніць і стаў усё больш і больш ад яе аддаляцца. Яна плакала ў бяссіллі, хадзіла на прыём да псіхіятра («псіхіятр параіў мне знайсці каханка») і, урэшце, пагадзілася ехаць з мужам і дачкою ў Чэхаславакію, дзе незадоўга перад тым адбыўся камуністычны пераварот і шмат хто з мужавых сяброў заняў высокія пасады. У прыватнасці, вышэйзгаданы Карл Бацылек зрабіўся ўсемагутным шэфам дзяржбяспекі. Падрыхтаваны і не занадта малады чытач гэтых радкоў, напэўна, ужо здагадваецца, што магло адбыцца далей…

Оскар Лангер атрымаў высокую пасаду ў міністэрстве эканомікі, неблагі заробак і кватэру.

Натуральна, што эканоміка паспяховай да вайны Чэхаславакіі пачала ў эпоху «народнай дэмакратыі», як кажуць, прабуксоўваць. Натуральна, што камуністычныя ўлады пачалі актыўны пошук вінаватых, на якіх былі адразу начэпленыя плямбы «ворагаў народнай улады». Натуральна, што габрэй Оскар Лангер неўзабаве быў абвешчаны «агентам сіянізму, які быццам бы хацеў збыць сусветнаму габрэйству народную маёмасць». Пра тыя катаванні, якія давялося яму вытрываць у засценках сацыялістычных турмаў, яго жонка, вядома ж, даведалася не адразу. А тады, у 1951 годзе, толькі ў апошні момант смяротнае пакаранне было замененае яе мужу на 22 гады зняволення з поўнай канфіскацыяй маёмасці. У Жо Лангеравай якраз незадоўга перад тым нарадзілася другая дачка Таня, і неўзабаве яе «родным домам» стаў паўразбураны будынак на ўскраіне Браціславы. Праз пэўны час усю сям'ю выселілі ў вёску. І гэта нягледзячы на тое, што Жо не сядзела на месцы, а спрабавала знайсці ратунак у нядаўніх мужавых сяброў, у тым ліку і ў Карла Бацылека.

Лішне казаць, што ўсе яе хаджэнні па інстанцыях, якія часам мелі напраўду дэтэктыўны сюжэт, аказаліся марнымі. Пахаваліся мужавы сябры-камуністы, і толькі звычайныя інтэлігенты дапамагалі яе сям'і хто чым можа.

Зрэшты, не лепш ладзіліся ў Жо Лангеравай кантакты і з тымі, каго прапаганда адносіла да «самага перадавога на свеце класу». Здзіўляешся тонкасці і дакладнасці назіранняў 39-гадовай на той час жанчыны.

…Узгадваю, як яшчэ школьнікам ці то па «Свабодзе», ці то па «Голасе Амерыкі» я некалі слухаў урывак з успамінаў колішняга нямецкага федэральнага канцлера Вілі Бранта пра яго сустрэчу з савецкім правадыром Леанідам Брэжневым. Паводле Бранта, паміж імі адбылася такая жартаўлівая сцэна:

**Брант:** Ведаеце, спадар генеральны сакратар, чым адрозніваецца сацыялізм ад капіталізму?

**Брэжнеў**: ???

**Брант**: Пры капіталізме існуе эксплуатацыя чалавека чалавекам, а пры сацыялізме — наадварот.

Пачуўшы гэта, Брэжнеў, паводле сведчання Бранта, доўга і гучна смяяўся…

Але «жонцы ворага народнай улады» Жо Лангеравай у Чэхаславакіі 50-х гадоў было зусім не да смеху. І яна рабіла ўсё магчымае і немагчымае, каб выжыць і паставіць на ногі дзвюх дачок. Яна рабіла самую розную чорную працу. Урэшце бездакорнае валоданне венгерскай і англійскай мовай дало ёй з часам магчымасць падзарабляць перакладамі, у тым ліку на замову высокіх партыйных інстанцый (натуральна, што афіцыйна работа перакладчыка запісвалася на іншую, нетаўравую асобу). Неверагодным чынам гераіні кнігі зноў удалося зняць куток у гаспадароў у Браціславе. Тым часам падрослая старэйшая дачка Зузка выявіла надзвычайныя музычныя здольнасці і стала паспяховай спявачкай…

Урэшце, у 1960 годзе Оскар Лангер быў амніставаны, выпушчаны з турмы, але свой імпэт паклаў не на тое, каб падставіць плячо жонцы ва ўмацаванні сямейнага котлішча, а на атрыманне… поўнай рэабілітацыі па партыйнай лініі. Гэтай рэабілітацыі ён, урэшце, дамогся, але рэабілітаваным пражыў зусім ня доўга: пражытае ў жахлівых турмах моцна скараціла ягоны век.

Жо Лангерава, аднак, не ўдае з сябе бездакорнай, бязмоўнай і цягавітай ратавальніцы сям'і. Яна мела свае ўяўленні, якім павінен быць каханы мужчына.

Аўтар кнігі сваім жаночым чуццём адчувае нялюдскасць «рэальнага сацыялізму», чаго, дарэчы, не дадзена некаторым сучасным дамарослым палітолагам нават з доктарскімі ступенямі. На памяць прыходзяць, напрыклад, велізарныя і растыражаваныя опусы ў абарону савецкага тэрарызму мінскага прафесара Льва Крыштаповіча… Дык вось, яшчэ чвэрць стагоддзя таму маленькая славацкая жанчына паставіла бязлітасны дыягназ СССР і яго сістэме:

«Савецкі Саюз стаў высокаразвітой краінай, мужыка выцягнулі з зямлянкі, узровень жыцця вырас да самага нізкага еўрапейскага, у космас запусцілі спутнік, непісьменнасць ліквідавалі ў такіх маштабах, што недавучкі цяпер валодаюць неабмежаванай уладай над душамі сваіх суграмадзян і нават над іх жыццямі. Ліквідавалі голад, і ўсе п'юць. А што тычыцца статусу краіны ў свеце, то ён дасягнуў сваёй вяршыні. Савецкі Саюз стаў імперыялістычным эксплуататарам у роўнай ступені з усімі іншымі звышдзяржавамі — але, што яшчэ горш, замест таго, каб мець дачыненні з адсталымі калоніямі, ён каланізаваў многія ўжо цывілізаваныя і высокаразвітыя краіны, што, напэўна, было яшчэ болей складанай задачай. Ён стаў вытворцам, уладальнікам і пастаўніком самых рафінаваных інструментаў забойства… Водаправодныя краны не працуюць. Трактары ржавеюць без запчастак, затое пра атамныя бомбы добра паклапаціліся…»

**Беларускі пераклад кнігі Жо Лангеравай не надта прыпазніўся: у Браціславе па-славацку першы раз яна была надрукаваная толькі пяць гадоў таму**

Нагадваю, што гэта было напісана яшчэ задоўга да распаду Савецкага Саюза.

Аўтар кнігі «Калісьці ў Браціславе» перажыла на радзіме час так званай «пражскай вясны». Пра гэтую самую «вясну» ў шмат каго з нас склаліся свае стэрэатыпы. Што пра яе, напрыклад, расказвае сёлетняму беларускаму выпускніку беларускай сярэдняй школы дзейны падручнік?

Бяру ў рукі кніжку аўтарства прафесара БДУ Уладзіміра Кошалева «Сусветная гісторыя» 2009 года выдання. Там чорным на белым прапісана:

«У 1968 г. ліберальныя рэформы ў Чэхаславакіі распачаў першы сакратар ЦК Кампартыі А. Дубчак. Спрабуючы паслабіць партыйна-дзяржаўны кантроль над усімі сферамі жыцця, ён заклікаў да пабудовы сацыялізму з чалавечым тварам. Кіраўнікі Камуністычнай партыі і дзяржавы па сутнасці ставілі пытанне аб адмове ад сацыялізму…»

Але Жо Лангерава піша пра гэта як сведка падзей, што называецца, «знутры»: «…Часам мяне нават падхоплівае плынь надзеі, што ахапіла ўвесь народ… Усё ж часцей я адчуваю страх, а не шчасце. Чаму кажуць, што мой муж сядзеў у турме Новатнага? Чаму не ў турме Готвальда або ў турме савецкіх дарадцаў? Дубчак зрабіў кар'еру ў партыі Сталіна і Готвальда, а Новатны ў той час яшчэ нічога з сябе не ўяўляў. Нам патрэбна новая порцыя хлусні, каб пазбыцца старой? Гусак, які цяпер таксама займае бачнае месца ў камандзе Дубчака — гэта стары сталініст і яшчэ больш шавініст. Ён не звярнуў бы ніякай увагі на нявінных ахвяр, калі б сам не быў адной з іх… Бо Дубчак, відавочна, чалавек толькі адносна прыстойны. Я кажу адносна, бо ведаю, што яго фанатычны бацька, які належаў ад старой гвардыі, узяў яго яшчэ дзіцём у Расію, і што сваю кар'еру ён рабіў у якасці партыйнага функцыянера ў часы Сталіна і Новатнага, што ўжо само па сабе кажа пра пэўныя межы прыстойнасці і розуму…»

(Для тых, хто не ведае або забыўся, патлумачу: Карэл Готвальд кіраваў чэхаславацкімі камуністамі да 1953 года, а яго наступнікам быў Антанін Новатны, які да 1967 года займаў і пасаду прэзідэнта ЧССР; на той час Камуністычнай партыяй Чэхаславакіі ўжо кіраваў славак Аляксандр Дубчак).

Баюся, што ў сучаснай Беларусі ўніверсітэцкія прафесары яшчэ доўга будуць карміць студэнтаў і вучняў крыху падфарбаванай версіяй гісторыі паводле падручніка «Гісторыі КПСС».

Аднак вернемся да перыпетый лёсу самой Жо Лангеравай. Ёй, можна сказаць, пашанцавала: у дні, калі ў Браціславу ўвайшлі танкі Савецкага Саюза і яго верных камуністычных хаўруснікаў, яе дачка Зузка знаходзілася на працяглых гастролях у Англіі і Швецыі. Прыхапіўшы з сабою толькі самае неабходнае, Жо Лангерава выехала з Браціславы ў зусім блізкую адтуль Вену. У вэрхале першых дзён савецкай «братняй дапамогі» ёй без вялікіх цяжкасцяў удалося перасячы чэхаславацка-аўстрыйскую мяжу і праз нейкі час назусім пасяліцца ў Швецыі. І толькі ў 2007 годзе славацкія чытачы пачулі ад пачатку да канца гэты «голас з таго свету» (Жо Лангерава памерла ў 1990 годзе). Голас, які не пакіне абыякавым любога, хто возьме ў рукі гэтую кніжку.

Аўтабіяграфічны твор Жо Лангеравай «Калісьці ў Браціславе» пераклаў на беларускую мову малады лінгвіст і перакладчык Павел Раага, ужо вядомы, між іншага, як аўтар выдадзеных у Мінску на беларускай мове «Кароткай граматыкі славацкай мовы» і «Размоўніка-даведніка славацкай мовы». Яшчэ школьнікам Павел быў сярод лаўрэатаў Рэспубліканскай алімпіяды па беларускай мове. І вось, захапіўшыся славацкай філалогіяй, прайшоўшы некалькі стажыровак у славацкіх універсітэтах, ён паспрабаваў сваё пяро ў жанры літаратурнага перакладу. Як на мой густ, пераклад атрымаўся зусім не благі: паасобныя хібы не перашкаджаюць цэласнасці ўспрымання гісторыі жыцця і споведзі сэрца Жо Лангеравай.

У сваіх нататках я не здолею расказаць пра ўсё самае цікавае ў гэтай кнізе (чаго вартыя, напрыклад, старонкі яе дзявочага дзённіка, змешчаныя ў канцы твора!). Раю папросту яе прачытаць, а дзеля гэтага запытацца ў мінскай кнігарні «Ў» (праспект Незалежнасці, 37а), у «Акадэмкнізе» або ў «Кніжным салоне», што на сталічнай вуліцы Калініна. Спадзяюся, што іншыя беларускія кнігарні таксама звернуць увагу на беларускамоўнае выданне, ажыццёўленае з дапамогай Усходнееўрапейскага Цэнтра еўрапейскай дэмакратыі.

ЦІКАВА

# ПАД ЗНАКАМ «ВІЦІСА»

## У 1920 годзе беларусы дапамаглі літоўцам адстаяць незалежнасць іх краіны

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У выніку Першай сусветнай вайны з палітычнай карты свету зніклі імперыі, а на іх абломках пачалі ствараца новыя дзяржавы. Не выключэннем была і Беларусь, жыхары якой паспрабавалі са зброяй у руках абараніць сваю незалежнасць.**



Начальнік беларускага вайсковага бюро ў Коўна В. Казлоў



Лейтэнант П. Старк, 1919 г.



Камандзір 1-й беларускай роты М. Яніцкі



Камандзір 2-й беларускай асобнай роты А. Ганзэн



Салдаты-беларусы літоўскага войска

### За БНР

У 1917 годзе па ініцыятыве Кастуся Езавітава і Сымона Рак-Міхайлоўскага была створана Цэнтральная беларуская вайсковая рада. Ужо 24 лістапада ў Мінску пачаў фарміравацца Беларускі пяхотны полк, які складаўся з трох батальёнаў (усяго каля 350 чалавек). Паступова пад бел-чырвона-белы сцяг пераходзілі і іншыя падраздзяленні былой рускай імператарскай арміі. Напрыклад, ваяваўшы на Румынскім фронце, 4-ты армейскі корпус і 43-я пяхотная дывізія заявілі аб сваёй прыналежнасці да Беларусі. На жаль, гэтыя падраздзяленні так і не здолелі вярнуцца дадому. Хутка пасля гэтага яны былі расфармаваныя нямецкімі і румынскімі акупацыйнымі ўладамі.

У студзені-лютым 1918 года Беларускі пяхотны полк прыняў удзел у баявых дзеяннях супраць бальшавікоў, падтрымаўшы Першы польскі корпус пад камандаваннем генерала Юзафа Доўбар-Мусніцкага. Скарыстаўшыся надыходам нямецкіх войскаў, беларусы абвясцілі незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Але, на жаль, абараніць рэспубліку ад захопу не ўдалося, і пасля таго, як кайзераўскія войскі пакінулі Беларусь, краіну акупавалі бальшавікі. Кіраўніцтва Рады БНР, генерал К. Кандратовіч і палкоўнік К. Езавітаў эвакуявaліся ў Вільню.

### Пад знакам літоўскай «Пагоні»

Неўзабаве пра сваю незалежнасць заявіла і Літва. Тагачаснае літоўскае кіраўніцтва ўсведамляла, што ў сітуацыі, калі бальшавікі пагражаюць маладой рэспубліцы, дапамога з боку «гудасаў» (так літоўцы называюць беларусаў) была б не залішняй. Ужо ў канцы лістапада 1918 года ў склад Тарыбы (літоўскага ўрада) увайшло шэсць беларускіх дзеячаў. Таксама было сфармавана Міністэрства беларускіх спраў, якое ўзначаліў Язэп Варонка. Нарэшце, у складзе Вайсковага міністэрства Літвы была створана беларуская секцыя.

У старажытнай сталіцы ВКЛ Вільні пачаў фармавацца 1-ы беларускі пяхотны полк. Але бальшавікі не пажадалі змірыцца з незалежнасцю Літвы. У сувязі з наступленнем Чырвонай Арміі літоўскі ўрад эвакуяваўся з Вільна ў Коўна (Каўнас). А чатыры пяхотныя роты, грэнадзёрская каманда і кавалерыйскі эскадрон 1-га беларускага палка перадыслакаваліся ў Гродна. Беларускім камендантам горада быў прызначаны капітан Н. Дзямідаў. 5-я беларуская рота фармавалася ў Коўна. Там жа знаходзілася Беларускае вайсковае бюро пад кіраўніцтвам В. Казлова.

Беларускія часткі, якія знаходзіліся ў Літве, былі апранутыя ў форму літоўскай арміі. Праўда, беларусам дазволілі захаваць некаторыя нацыянальныя асаблівасці. Напрыклад, афіцэрам дазвалялася насіць стужку бел-чырвона-белага колеру, уведзеную яшчэ ў 1917 годзе ў якасці ўзнагароды. Акрамя гэтага, некаторыя беларускія афіцэры выкарыстоўвалі нестатутныя галаўныя ўборы.

У лютым 1919 года армія адроджанай польскай дзяржавы пачала наступ на Усход. Усведамляючы безвыходнасць становішча, беларускі кавалерыйскі эскадрон эвакуяваўся на тэрыторыю Літвы. 31 мая 1919 года палякі загадалі камандзіру беларускага палка Антонаву перавесці сваю частку ў раён Слоніма і ўліцца ў склад Войска Польскага. Беларус адмовіўся выканаць гэты загад, і ўжо ўвечары таго ж дня палякі раззброілі беларускі полк. Салдат-каталікоў прызвалі ў Войска Польскае, а праваслаўных без лішняга шуму дэмабілізавалі.

### За «ковенскую» Літву

Тыя беларускія падраздзяленні (5-я рота, каменданцкі ўзвод і кавалерыйскі эскадрон), што знаходзіліся ў Літве, падвергнуліся рэарганізацыі. Так, былі сфарміраваны 1-я і 2-я асобныя беларускія роты, а кавалерыстаў перадалі ў распараджэнне 1-га літоўскага ўланскага палка.

Баявым хрышчэннем для беларускіх салдат стаў удзел (у канцы чэрвеня 1919 года) у баях з бальшавікамі ў раёне Дзвінску. 26–28 жніўня 1-я беларуская рота пад камандаваннем маёра Аляксандра Ружанцова праявіла гераізм, за што 25 беларусаў былі ўзнагароджаны літоўскім ордэнам «Крыж Віціса».

Вось як тыя падзеі пасля апісваў відавочца: «28 жніўня рота правяла паспяховую штыкавую атаку на чырвоных латышоў у раёне Суссекле. Выбіць ворага лабавым ударам было немагчыма. Тады беларускі камандзір Міхайлоўскі паслаў узвод праз лес і рэчку Ілукшту на правы фланг варожай абароны. Прайшоўшы ляснымі сцежкамі, перапраўіўшыся праз раку ўброд, беларусы апынуліся ў 40–50 кроках ад бальшавіцкіх акопаў і раптоўнай штыкавой атакай выбілі ворага з іх пазіцый».

З кастрычніка 1919-га ўсе беларускія падраздзяленні былі сканцэнтраваны ў раёне літоўска-польскай дэмаркацыйнай лініі ў раёне Ліепаі. 17 лістапада гэтыя часткі былі зведзены ў Беларускі батальён літоўскай арміі. Да снежня 1919 года ў складзе батальёна было 11 афіцэраў, 3 ваенных чыноўніка і 379 байцоў.

У верасні 1920 года батальён быў перадыслацыраваны ў мястэчка Вяліковішкі. Маёр Аляксандр Ружанцоў, характарызуючы гэтую вайсковую адзінку, пісаў: «Сёння склалася такая сітуацыя, што толькі ў Літве захавалася беларуская частка, салдаты якой яшчэ маюць гонар называцца беларусамі, у якой дзейнічае свой статут, мова, звычаі». Сапраўды, ключавым момантам было тое, што беларуская мова адыгрывала важную ролю ў фармаванні нацыянальнай свядомасці беларускіх салдат у Літве. Так, у адным са зваротаў да салдат адзначалася: «Калі ты праваслаўны — не думай, што ты рускі. Калі каталік — не думай, што ты паляк. Ведай, што ты беларус, і гавары ўсюды толькі па-беларуску, таму што гэта твая родная мова, мова тваіх продкаў. Хто саромеецца сваёй роднай мовы, той не сын свайго краю, той раб у чужых і здраднік сваім. Твая мова, народ і краіна не горш за іншыя краіны, народы і мовы».

У лістападзе 1920 года беларусы вызначыліся падчас баёў з польскімі часткамі пад камандаваннем генерала Люцыяна Жалігоўскага. З 15 сакавіка 1920 года беларусы ахоўвалі нейтральную зону на мяжы паміж Літвой і Польшчай. Штаб беларускага батальёна знаходзіўся ў мястэчку Серэнай. Праз два гады, у сакавіку 1923 года, Беларускі батальён быў рэарганізаваны ў роту, якая ў ліпені была расфармавана.

Акрамя беларускага батальёна, на тэрыторыі Літвы быў створаны Саюз беларускіх стралкоў, які займаўся фармаваннем партызанскіх атрадаў для барацьбы з палякамі на літоўскай і беларускай тэрыторыі. Ужо зімой 1921–1922 года беларускія партызаны прыступілі да актыўных баявых дзеянняў супраць палякаў. Разам з тым, варта падкрэсліць, што Войску Польскаму ўдалося даволі хутка справіцца са слаба ўзброенымі партызанамі.

Неўзабаве ў барацьбу за беларусаў, якія знаходзіліся ў Літве, уключыліся бальшавікі. Савецкага паўпрэдства стала весці прытоеную агітацыю сярод беларускіх вайскоўцаў, што знаходзіліся ў Літве, з мэтай схіліць іх да вяртання ў БССР. У траўні 1923 года атрад з 60 беларускіх вайскоўцаў літоўскай арміі пакінуў сваё размяшчэнне ў раёне Мерачы і праз польскую тэрыторыю накіраваўся ў Беларусь. Падчас руху беларусам некалькі разоў прыйшлося ўступаць у бой з палякамі, але атрад усё ж прабіўся на радзіму.

Гэты інцыдэнт прымусіў літоўскі ўрад канчаткова адмовіцца ад беларускіх вайсковых фарміраванняў. Неўзабаве ўсе беларускія часткі былі расфармаваныя. У 1924 годзе Коўна пакінула і Рада БНР.

...Але літоўцы захавалі памяць пра беларусаў, якія абаранілі незалежнасць Літоўскай рэспублікі. У сховішчах Музея Вітаўта Вялікага ў Коўне да сённяшняга дня захоўваюцца фатаграфіі і асабістыя рэчы многіх салдат і афіцэраў беларускага батальёна. На жаль, у літоўскіх архівах не захаваліся асабістыя справы беларускіх салдат і афіцэраў літоўскай арміі. «Пастараліся» савецкія ўлады. Літоўскі бок зацікаўлены ў аднаўленні біяграфічных звестак беларусаў, якія ваявалі на баку Літвы ў 1920 годзе. Думаю, што тут ёсць праца і для беларускіх даследчыкаў. Імёны тых, хто стаяў ля пачаткаў беларускай вайсковай справы ў XX стагоддзі, павінны быць вернуты з небыцця.

МЕРКАВАННЕ

# ХТО ЗАМАЎЛЯЕ ЗАХОДНЕРУСІЗМ У БЕЛАРУСІ?

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Заходнеруская актыўнасць у Беларусі з'явілася не на пустым месцы. Яе падтрымліваюць і інспіруюць тыя, хто марыць адчаканіць новы медаль са старым кацярыненскім надпісам «Отторженная возвратихъ».**







Медаль Кацярыны ў памяць падзелаў Рэчы Паспалітай

Напрыканцы мінулага года ў Расійскім інстытуце стратэгічных даследаванняў у Маскве адбылася канферэнцыя «Уз'яднанне Беларусі і Расіі. Да 240-годдзя вызвалення Белай Русі з-пад польскага іга». Прысутнічалі на гэтым мерапрыемстве не толькі расійскія навукоўцы, але і дзеячы з Беларусі, Украіны і нават Польшчы. Па сутнасці гэта былі зборы адэптаў заходнерусізму і расійскіх вялікадзяржаўнікаў, якія спрабуюць рэанімаваць пастулаты царскай і бальшавіцкай міфалогіі наконт «адзінай рускай нацыі і адзінай рускай прасторы».

## Сенсацыя, высмактаная з пальца

Супрацоўнік усё таго ж Расійскага інстытута стратэгічных даследаванняў Алег Неменскі агучыў «сенсацыйныя» факты наконт «уз'яднання Беларусі і Расіі». Расія нібыта «не ўдзельнічала ў падзелах Польшчы», а забрала тое, што было спрадвечна расійскім.

На самай справе, землі Вялікага Княства Літоўскага, якія з цягам часу ўвайшлі ў саюз з польскай Каронай і стварылі дуалістычную манархію — Рэч Паспалітую, ніколі не былі часткай Маскоўскай дзяржавы. Апошняя на працягу некалькіх стагоддзяў спрабавала далучыць сілай «рускія» землі гістарычнай Літвы. Аднак літвіны са зброяй у руках не давалі Маскве рэалізаваць гэтыя захопніцкія планы.

Тут мы бачым спробу падмены тэрміна «рускі» ў дачыненні да ВКЛ, словам «расійскі», які, у сваю чаргу, звязаны з Расійскай імперыяй. Над фармаваннем ідэалагічнага абгрунтавання расійскай экспансіяністычнай палітыкі на працягу некалькіх стагоддзяў працавалі прыдворныя расійскія гісторыкі. Гэтымі напрацоўкамі потым карысталіся і бальшавікі, спрабуючы абгрунтаваць палітыку русіфікацыі.

Неменскі адзначае, што нібыта «польскай культуры ніколі не было ўласціва ўсведамленне сваіх этнаграфічных межаў, і ў гэтым яна адрозніваецца ад традыцыйнай рускай культуры». Аб чым гаворка, калі спачатку Маскоўская дзяржава жорстка і крывава далучыла да сябе суседнія княствы, а потым пайшла з мячом на ВКЛ? Дзе гэта разуменне этнічных межаў? Яго гістарычна не было. Масква, а потым і Расійская імперыя, кіраваліся адным — імперскімі амбіцыямі. Прычым, часцей за ўсё, свае экспансіяністскія планы Расія рэалізоўвала не сваімі сіламі, а пры дапамозе знешніх саюзнікаў. Падчас падзелаў Першай Рэчы Паспалітай гэта былі Прусія і Аўстрыя, а ў 1939 годзе хаўруснікам Масквы стала нацысцкая Германія.

## Старыя казкі пра праметэізм

Адным з удзельнікаў канферэнцыі быў украінскі палітолаг Уладзіслаў Гулевіч, які разважаў наконт ідэалогіі польскага праметэізму. Галоўным пастулатам яго выступу з'ўлялася старая ідэалагема расійскай гістарыяграфіі аб «прасоўванні польскіх інтарэсаў углыб адвечна рускіх тэрыторый». Ідэалогія польскага праметэізму, якая была скіравана на падтрымку нацыянальных ускраін Расіі і СССР, ён суадносіць — ні больш, ні менш — з нацызмам.

Дарэчы, гэты пастулат не новы. Ім карысталіся яшчэ савецкія, а зараз расійскія імперскія эліты, якія з дапамогай СМІ спрабуюць стварыць з Польшчы 1920–1930-х гадоў галоўнага ворага Расіі і СССР. Гэта, дарэчы, перагукаецца з бальшавіцкай прапагандай 1930-х гадоў, калі савецкія газеты не эканомілі адмоўных эпітэтаў на адрас Другой Рэчы Паспалітай.

## Маскоўскае бачанне канцэпцыі Мірашэўскага—Гедройца

Старэйшы навуковы супрацоўнік Інстытута славяназнаўства РАН Вадзім Валабуеў спыніўся на крытыцы польскіх канцэпцый знешняй палітыкі, агучаных у сярэдзіне XX стагоддзя Юліўшам Мірашэўскім і Ежы Гедройцам. Па яго меркаванні, гэтыя канцэпцыі мелі пад сабой нібыта экспансіяністкі падтэкст. Безумоўна, погляды польскіх навукоўцаў не былі прарасійскімі, але ў іх сутнасці ляжалі інтарэсы ўсходніх суседзяў Польшчы. І гэта галоўнае для беларусаў, украінцаў, літоўцаў ды іншых народаў.

Нагадаю, у аснове канцэпцый Мірашэўскага і Гедройца ляжала прызнанне таго, што Польшча мае мяжу на ўсходзе не з «вялікай» Расіяй, ці Савецкім Саюзам, а з незалежнымі дзяржавамі, «прасторай ULB» — Украінай, Літвой і Беларуссю. Ідэя гэтая з'явілася ў 1950–1960-х гадах, у часы панавання Савецкага Саюза ва Усходняй Еўропе.

У адной з публікацый Юліўш Мірашэўскі пісаў: «Ва Усходняй Еўропе — калі на гэтых землях калісьці запануе не толькі спакой, але і свабода, — няма месца ніякаму імперыялізму: ні рускаму, ні польскаму. Мы не можам гарлапаніць, што рускія павінны аддаць украінцам Кіеў, і патрабаваць у той жа час, каб Львоў вярнулі Польшчы. Гэта тая самая «падвойная бухгалтэрыя», якая ў мінулым рабіла немагчымым пераадоленне бар'ера гістарычнага недаверу паміж Польшчай і Расіяй. Рускія падазравалі, што мы антыімперыялісты толькі ў адносінах да іх — гэта значыць, што мы жадаем, каб месца руская імперыялізму заняў польскі. Мы паводзім сябе як шляхціц, які страціў свой маёнтак».

Безумоўна, такі падыход не падабаецца Маскве, якая імкнецца вярнуць статус-кво, існаваўшае да 1991 года.

## Пра «польскія міфы» і канцэпцыю панрусізму

Удзельнікам з Польшчы аказаўся прафесар Акадэміі гуманітарных навук ім. А. Гейштора ў Пултуску Дзмітры Карнаўхаў, які прысвяціў сваё выступленне аналізу польскіх «міфаў наконт заходнерускіх земляў» і асаблівасцям абгрунтавання экспансіі Польшчы і… Літвы на ўсход. Зразумела, што прафесар паўтарыў імперскія пастулаты, прынятыя ў расійскай і савецкай гістарыяграфіі. Насамрэч, гістарычная Літва была протапластам беларускай нацыі і дзяржаўнасці. Так што яна ніяк не магла наступаць на Беларусь. Што ж тычыцца паступовай паланізацыі эліт ВКЛ, дык гэта пытанне дастаткова добра вывучана ў беларускай ды польскай гістарыяграфіі.

Найбольш адыёзным удзельнікам мерапрыемства быў кіраўнік праекта «Заходняя Русь» Ігар Зелянкоўскі з Беларусі. Ён заклікаў ствараць «адзіную канцэпцыю гістарычнага працэсу Рускай праваслаўнай цывілізацыі». Канцэпцыю панрусізму, які ў выпадку Беларусі заключаецца ў «падыходах сучасных заходнерусістаў». Ён абрынуўся з крытыкай на нацыянальную беларускую гістарыяграфію, якая вывучае трагічныя падзеі паўстанняў 1794 і 1863–1864 гадоў менавіта з беларускіх пазіцый. Зелянкоўскі ў якасці ўзору падручніка па гісторыі назваў… «Историю государства Российского», у якой «уся гістарычная Расія была адзіным суб'ектам гісторыі». Каментары залішнія.

Трошкі раней у адным са сваіх артыкулаў, апублікаваных на расійскім сайце «Рэгнум», Зелянкоўскі абрынуўся з крытыкай на ўдзельнікаў сустрэчы прадстаўнікоў беларускіх апазіцыйных партый з кіраўніцтвам Рады БНР у Вільні 3 лістапада 2012 года. Дасталася ў тым яго опусе і беларускім навукоўцам, якія ўдзельнічалі ў навуковай канферэнцыі «Праблемы сучаснай беларускай ідэалогіі» ў Мінску. Усіх гэтых людзей заходнерускі ідэолаг запісаў у нашчадкаў прыслужнікаў Гітлера.

* * *

Варта падкрэсліць, што Расійскі інстытут стратэгічных даследаванняў быў створаны Указам прэзідэнта Расіі ў 1992 годзе. На сайце ўстановы адзначаецца, што яе «галоўнай задачай з'ўляецца інфармацыйна-аналітычнае забеспячэнне федэральных органаў дзяржаўнай улады пры фарміраванні стратэгічных напрамкаў дзяржаўнай палітыкі ў сферы нацыянальнай бяспекі». За ўсім гэтым пафасам крыецца простая фармуліроўка: «фарміраванне неаімперскай ідэалогіі». Вось і ўсе абгрунтаванні правядзення такіх мерапрыемстваў. За заходнерускімі маргіналамі ў Беларусі стаяць афіцыйныя расійскія структуры.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 35

Падпісана да друку 11.01.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.